Лявон Неўдах





# Каханак восені

**(Кніга пачуццяў)**

Наваполацк
2010

Складанне і афармленне
Лявон Неўдах
Ілюстрацыі на вокладцы
Георгій Мішута

Трагізм вершатворцаў заключаецца ў ігнараванні імі той простай ісціны, што для таго, каб слыць паэтам, тым больш песняром, мала аднаго валодання майстэрствам вершаскладання. Нават віртуозным. Самая высокая паэзія – матчыны пацеры. У роздуме пра такі стан, пра мастацкае выяўленне душы сродкамі пачуццяў і нараджалася гэтая кніга.

# Раздзел першы

Падыду к Айчыне, ціха ўткнуся ў плечы.
Побач восень шэпча: “Да сустрэ-чы-ы…”

# На адлегласці дня

На адлегласці дня горад, дзе
я хаджу, ем, нешта раблю і ахвярны бядзе.
І гэтак да вечара, у каторы,
калі хмар няма, запальваюцца зоры –
яны зіхацяць, мільгацяць, тухнуць бы вуглі –
і я падоўгу гляджу на іх з зямлі.

На зямлі, дзе горад, адлегласці розныя,
яны ў выглядзе дарог то раннія, то познія.
Я ўжо на позняй, і вядзе яна мяне…
да мяне!
І лёгка мне, здаецца, лячу…
Не, я яшчэ не памру, бо не хачу.

Я кранаю зоры на адлегласці рукі –
гэта ўжо ранак; пяюны-жаўрукі
трапяцяць, ператвараюцца ў кроплі дажджу –
і я па мокрай адлегласці дня хаджу.
Брыду па горадзе зноў ахвярны бядзе.
Жыццё йдзе.

# Валанцёр

Да шчасця напрасткі – ўсяго жыццё.
Вяртанні ёсць – адкуль няма нікога…
Па шчасце я – не першы валанцёр
(І ўслед за мной іх будзе многа).
Дасць Бог, знайду я колер слоў,
Каб напісаць партрэт Радзімы новы --
На тых,
Што ёсць,
Зрудзела кроў,
Яны пужаюць позіркам суровым.

Красы нябачанай свабодных дум паток
Не вытрымае бераг мовы кніжнай.
Любіць Радзіму лепей мо здалёк
(Лацвей з Нью – Ёрка, Бона ці Парыжа),
Ды я, дзівак, у неба ўпарта йду.
Хоць ведаю дакладна, што сарвуся
І на Палессе зоркай упаду –
На Беларусь вярнуся.

Дай адпачыць ля ног тваіх, Дзвіна,
Цябе я ведаю глыбокаю і мелкай.
Калі хацеў дастаць я твайго дна,
Ты хваляй гладзіла мае кудзеркі.
Дай трошкі сілы –
камяні сабраць
З усіх шляхоў зняважанай дзяржавы,
Дзе процьма здольных боскае караць,
Дзе мноства прагных д”ябальскае славіць…

Дай адпачыць ля ног тваіх, Дзвіна.
Да шчасця напрасткі –
ў жыццё дарога.
Іду да Бога…

***

Шаноўны крытык, гэта дрэнны верш:
не то каб вельмі крыўдна за дзяржаву;
было – і гордасць адчуваў не менш…
Ды хочацца яе сусветнай славы!

Было: і я такога натварыў
ні то ў натхнённым, ці ў спакойным стане.
Ды журавель, якога блаславіў,
жыруе ўзімку ў Афрыцы ў саване.

Па ўсіх прыкметах – надыход вясны:
гракі, шпакі, ляцелі нізка гусі…
Напэўна, зноў да рэчышча Дзвіны
мой паэтычны журавель вярнуўся.

Хай лётае, у вырай свой ляціць,
душу вярэдзіць і казыча нервы!
Шаноўны крытык, небам трэба жыць,
тады й Радзіма не падасца фермай.

# Шчаслівец

Заплюшчыў вочы – думкі , быццам сны,
пра час, яго адлік,што ён не мае межаў,
што за зімой, пакуль няма вясны,
ёсць схованы ад злых вачэй прамежак.
Бяспрэчна, гэта ў часе калідор,
які вядзе без перашкод да зор.

Хацеў бы быць прылежным вучнем Бога,
бо маю рацыю я ў роздумах аб людзях.
Два чалавекі – гэта многа:
і рай спаскудзілі, і зямлю спаскудзяць.
Ды ім не бачны ў часе калідор,
які вядзе без перашкод да зор.

…Расплюшчыў вочы: Божухна, вясна!
Зрабіў зарадку, гладка пагаліўся,
апратку выбраў лепшую з майна –
шчасліўцам я на баль вясны з"явіўся.
Бо мне адкрыўся ў часе калідор,
які вядзе без перашкод да зор.

***

Ёсць codex

Ёсць вершатворцы; зрэдку ёсць паэты…
І я магу надумаць верш узорны
(не мілую адно санеты
за іх узнёсласць і грувасткасць формы).
Такі, як мой , верш не знайсці нідзе,
бо я ёсць Я ў народзе з мы-людзей.

Вясна прыйшла, а я заўжды з вясной
сплятаю ў верш адметны словы,
ды не бяру “любіць” (каб не гучаў маной)—
засліненага ўсімі дзеяслова.
Вясне, каб цвіў, я выгадаваў сад;
з вясной мякчэе жорсткі  мой пагляд.

Пакуль тварыў я верш, счарнеў прыдзвінскі дол –
там зімні снег вадою абярнуўся.
Што меў, накрыў  вясне на стол –
няхай раздзеліць долю беларуса.
І першы весні месяц мне сказаў,
што я іспыты на паэта здаў.

***

Блакіт нябёс  навейвае спакой.
Як пульс шукаючы на жылістым запясці,
я  дакранаюся да яго рукой.
Канец  няшчасця  ёсць пачатак шчасця.

Зімы няма. Ужо няма зімы!..—
я абвясціць пра гэта вельмі рады.
А помніцца, зусім нядаўна мы
жахліва  мёрзлі  ў зоне снегападаў.

Для кожнай з”явы ёсць свой пэўны знак.
Канец  зімы такі і ў  Паазер”і:
абвуглены ў палёце хуткім грак
астужвае на белым снезе пер”е.

І снег знікае, і ручаі журчаць,
і адкрываецца бязмежная сінеча,
і птушкі з выраю ляцяць…--
вечнасць,

дзе я жыву даўным-даўно!
Пратру сінечу, каб яна свяціла
і вечнасць лепш было відно… --
мяне душа аб гэтым папрасіла.

# Дно неба

Нарэшце я геройства праявіў:
прыйшоў к Дзвіне,
там хвалі гналі льдзіну.
Настрой такі: нібы ў ад”ездзе быў –
і вось цяпер вярнуўся на радзіму.

Vivat,vivat жаданая вясна!
Лягчэй мне жыць без слоты і без снегу.
Такая неба глыбіня –
дае душа туды нырца з разбегу!

Душа ляціць, падобная стрыжу,
праз дні і ночы, вечары й світанні…
На веснюю жанчыну пагляджу –
й на небе ёсць, канешне, ёсць каханне!

Напэўна, ёсць і крыўда, і мана,
і нат падзел на нашых і ненашых…
…Нырнуўшы ў неба і дастаўшы дна,
я выціраю з твару пырскі часу.

***

Сакавік як сакавік. Як ёсць:
то хлюпотна, то марозна, то трывожна.
Зранку котка мылася:  дзе ж госць?
А не будзе – без яго напіцца можна.

Пазваню ў Пінск брату – рады чуць.
Пагаворым пра палескія разлівы,
як у Полацку я ў хлюпу снег тапчу… –
міг шчаслівы!

Бог мяне ратуе й беражэ:
сакавік трываю трэці тыдзень.
Дзіўна: хочацца вясною жыць даўжэй,
гэты свет любіць і ненавідзець.

# Дарадца вясны

Вясна як сам ты, як твае гады.
Пасля зімы душа ледзь-ледзь не плача,
бо на радзіме зноў цвітуць сады,
сады маёй сталіцы – вёскі Радчыцк.
Дзе звыклыя, як пясок дарог,
гучанне мовы старажытнай песняй,
палёў прасторы і лугоў разлог,
і неба, у каторым птушкам цесна.

Вясна як праўда – у кожнага свая
( няма для ўсіх універсальнай праўды).
Калі сам-насам з ёй, яна мая
на той зямлі, дзе мне, як сыну, рады.
Дзе ўспорхваюць на сцежках жаўрукі,
дзе коціцца са стрэх бусліны клёкат,
дзе філасофствуюць да ночы мужыкі
пра блізкі свет і свой надзённы клопат.

Вясна як выбар – раз і назаўжды --
як трэба жыць і смерці не баяцца.
Сівабародыя дзяды,
я з вас адзіны ёй дарадца!
Жыві, вясна палеская! Жыві,
квітнеючы ў маёй душы усцешна…
…Галавакружэнне ад любві
да той зямлі, дзе ў небе птушкам цесна.

***

Я жыву нібыта па крузе:
за вясной – лета, восень, зіма…
Сонца купаецца зноў у калюзе,
ды з таго радасці нешта няма.

Пэўна, я
паэт адмаўлення.
Вобраз апоўначы надта прыгожы:
ён абуджае ў любові натхненне.
Дні перамножу –

хай будзе мноства іх
і святлом розных!
Хочацца ліпы, духмянага сена.
То надакучыць –
і радасцю позняй
запраменіцца восені цела.

Як і адкуль гэта дзіва бярэцца?!
Па-красавіцку майскай парою
восень скрозь зелень упарта прарвецца
і прадстане вясной перад мною.

# Жонка

У Галі вочы – зелянковыя;
яе пагляд нібы праз снег свіціцца.
Мой позірк жорсткі і суровы,
але і ён не можа не скарыцца
вачам Галіны. Гэта не партрэт
жанчыны, панны і любові жрыцы --
то ёсць найдробненькі фрагмент
партрэта гордае царыцы
з дынастыі  Шуневічаў-Мішутаў.
Яе імперыя – вядомая радзіна,
і там яна ўладаркаю магутнай
усяго Лявона Неўдаха і сына
Андрэя (ён жа сын Лявона).
Галіна Мудрая, Галіна Пекная, Галіна Першая…
Па геніяльнасці і вечнасці законах
яе  навекі я ўслаўляю гэтым  вершам.

# Першы закон кахання

Ёсць рытміка рэчаў; сабе інтэр”ер
грунтоўны надоўга ствараў я павольна.
Нішто з таго мне не патрэбна цяпер.
Я вольны.

Я вольны, ды так, што не трэба вясна.
Надоечы Полацк мне здаўся безродным.
Як хораша льецца да мора Дзвіна –
свабодна!

Дзе повязь часін – гэта я не скажу;
для велічы дробязь мала што значыць.
Вось высячэ вецер аб вока слязу –
заплачу.

Заплачу, і  гэтак папоўню раку,
бо плынь праз стагоддзі яе прытаміла.
Балтыйскае мора ў барханах пяску –
магіла,--

так бачыцца мне, бы ў сучасным кіно…
Не чуецца сэрца, пакуль маладое –
і першым законам кахання даўно
ёсць тое.

# Радаўніца

Месяц май. Дзясятае чысло.
З кола дзён – мужчынскі дзень.
Аўторак…
Смутак ахінуў маё чало.
Апрануся ў гарнітур каторы –
сёння ўсё-ткі радаўніцкі фэст.
Тост прамоўлю ў гонар продкаў –
будзе светлы яго змест,
горкая пакажацца салодкай.

Вось і мой ужо слабее зрок.
І мне неба падаецца мелкім,
скуль магутны часавы паток –
круціць на гадзінніку ён стрэлкі.
Гэта Бог гадзіннік мой завёў,
што стаяў хваробай сапсаваны…
Бачыце: выдатная вязь слоў,
хоць я й п”яны.

Горад з гмахаў, кветак, дрэў, людзей…--
будучыня проста перад мною.
А мінулае – я здагадаўся, дзе…--
за спіною!
Перад  мною далячынь часоў:
ранак, поўдзень, потым адвячорак,
услед  цемра пакрывае дол –
і ўжо ўчора.

Хай мой тост пакажацца хмяльны,
келіх поўны ўзняць любілі продкі.
Іх магілы – як чаўны,
як пад ветразем крыжападобным лодкі…
Май, аўторак, спрэс вясна,
дваццаць першае стагоддзе… --
будучыні далячыня.
Там – свабода!

# Чаяванне

Паміж нянавісцю й любоўю – існы рай,
спачын душы, падобны цуду.
А ў Полацку – дажджлівы май,
прынёс ён холад і прастуду.

Любіць? Кахаць?.. Каго, калі і дзе? –
гадаю я ў чаканні лета.
А па радзіме страх паўзе
жыцця прыгоннага прыкметай.

Шкада, што дождж не лье ўгару,
таму й не бачна над зямлёю:
падаравала неба мне зару –
цяпер я ганаруся ёю.

Цяпер беспамятна і верыць, і любіць,
і ненавідзець больш не буду…
…Цудоўна чай з малінай піць
і выганяць з душы прастуду.

***

Белы горад, Дзвіна, маладосць… --
Шчыльна на павуцінне нанізана.
Ах ты, лёс, незайздросны мой лёс –
Такма ў пацерках пані капрызнай.

Каб пажыць, я пазычыў шчэ дзень
І ўдыхнуў лістападнай апаліны.
Ах, агмень, ты мой родны агмень –
У жыцці мёрзлым цёплай праталінай.

Я прызнаўся ў любові  Зямлі,
Прыме ў лона яна і заступіцца…
Салаўі, ўсе мае салаўі
Праспяваюць яшчэ, як мне любіцца.

***

Па-за каханнем шчасце ёсць!
Як сэрцу дрэнна – добра бачны зоры.
Аднак анёл мой Бога падбухторыў
хаваць за хмарамі такую прыгажосць,
маўляў, пакуль што гэта не інфаркт,
і я яшчэ не дакахаў жанчыну,
і я яшчэ не далюбіў Айчыну –
і гэта факт.

А ў Наваполацк зноў прыйшла вясна,
і, як звычайна, нечакана.
Я ад зімы па-за каханнем –
па барабане мне цяпер яна,
як і Дзвіна – з вялікіх рэк Айчыны,
сама Айчына і яе народ,
святы мой род і гэткі ж род
маёй жанчыны.

Такой палёгкі не было ніколі!
Баюся зварухнуцца і адчуць
душэўны ўздым, і гэта не пачуцці –
бо пачуцці толькі  з болем!
Ды трэба жыць, хаця і ўжо нямнога,
кахаць сваю, якая ёсць, жанчыну,
любіць сваю, якая ёсць, Айчыну –
яны ад Бога.

***

Сёлетні  чэрвень – кастрычніку брат;
кажуць, не ўспомніць, каб быў раней слотны.
Добра, што гмах – як гара Арарат,
дый  кватэра – як човен дабротны!

Чым не цікавы біблейскі сюжэт,
як дамачадцы сумуюць па леце?
Хто з нас чакаў, што да лета бліжэй
скурвіцца гэтак надвор”е на свеце?

Так і жывём  дзень каторы ужо –
без перспектывы, без далягляду.
А за сцяною разам з дажджом
плёхкаюць хвалі пагіблага сада.

І абуджае мне сум успамін:
зрэдку сады адцвітаюць шчасліва.
…Снег на зямлі афрыканскіх краін –
дзіва?!

# Заплаканае Лета

Я не маню: нібы з вядра ліло
па рабацінню з дрэў, кустоў і кветак.
У ліпені
на сёмае чысло
было са мной заплаканае Лета.
Казаў я Лету: шчэ бывае горш…
Не перадаць такое на паперы,
калі – бы вар,
салёны дождж
з маіх вачэй свінцова-шэрых,
і ніхто не йдзе дапамагчы,
хоць я сяброў, лічу, займеў нямала.
…Ля вогнішча купальскага ўначы
са мною Лета плакаць перастала.

Я не маню: хацеў я быць святым.
Засведчыць гэта надпіс на пагосце,
што я памёр
немалады –
патрэбен небу я ў такім узросце.
Казаў я Лету: вось калі касцёр
праходцы неба сонейкам распаляць, --
яны займеюць
паміж зор
сваю Радзіну і сваё Купалле.

І зажывуць тады радзінічы
нябачанай свабоднаю сям"ёю…
…Ля вогнішча купальскага ўначы
заплаканае Лета над Дзвіною.

# Ландышавае неба

“Калі люблю – я веру і мане…”
А. Сыс

Калі люблю –
дастойны даравання.
Я змалку заручоны з Белай Вежай.
Абрыдла мне быць ад яе залежным,
ужо хачу свабоды і ў каханні,
каб гэтак з зоркі выхаваць зару.
Такі шчаслівы, мусіць, і памру.

Вы чуеце, як ландышы звіняць
у гонар любай на ўскрайку лета?
Калі не чуеце –
якія ж вы паэты?!
Шкада, на Полаччыне вежы не стаяць .
З Сафійкай лёгка гадаваць зару.
Такі шчаслівы, мусіць, і памру.

Ахлынь, душа! Чаго табе патрэбна:
Сафійкі святасць, гордасць Белай Вежы?
Зямная прыгажосць і табе належыць.
Але ці будзе так у ландышавым небе,
ці ўбачу стуль я зоркаю Зямлю?..
Калі люблю –
люблю!

# Спякота ў Прыдзвінні

Ліпень просіцца ў верш медазборам,
а каханне не ў радасць – стамляе.
Мне прыходзіць на памяць Балтыйскае мора,
там шторм гуляе,
хочацца звыклай яго прахалоды.
Чуецца голас, быццам бы з вару:
“Гэтае пекла наробіць нам шкоды…”
Без каментару.
…І сапраўды: і зверы, і людзі,
дрэвы, суквецце, дамы і прадметы
тлушчам зыходзяць, плавяцца ў студзень –
змест іх адметны.
Гэтае варыва не для натхнення.
Рыфму шукаю для прахалоды –
тое, што ў душах майго пакалення
ўжо астудзіла жаданне свабоды.

## Дрэвы

1

Як пад небам беларускім
дрэвы моляцца,
Ды не могуць, небаракі, супакоіцца.
Пазіраю ў іх бок я ўпотай –
Аблятае прыгажосць пазалотай.

Я прыйду да іх у храм
з сваёй вераю –
З вельмі востраю пілой і сякераю.
Стане вусцішна ім усім,
стане страшна мне:
На адной зямлі жывём, гарапашныя.

Адвядзі, Гасподзь, мяне ад злачыннага,
Дай цяпла мне, дай святла –
не лучыннага.
Смерцю лёс пасеклых дрэў
мне адмоліцца,
Не дае маёй душы супакоіцца.

2

Аднойчы ўдзень, падчас дажджу,
чакалі дрэвы, што я ім скажу.
Дождж лупцаваў па іхніх шатах,
а я маўчаў, хаваўся сам ад катаў,

як і яны, трываючы пакуты –
і я карэннем да зямлі прыкуты.
Каб разумець, што дзеецца на свеце,
я адчуваў, што рукі сталі веццем,
і што лухта змест чалавечай веры –
на жаль, не могуць дрэвы ўзяць сякеры.
Дальбог, і ў іх свае народы,
і ім таксама хочацца свабоды.

Мне Бог дазволіў стаць у думках Богам,
а так я добры, злы, ласкавы, строгі…
Люблю я дрэвы і люблю іх секчы –
яны ж гараць цудоўна ў маёй печы!
…Аднойчы ўдзень, падчас дажджу,
чакалі дрэвы, што я ім скажу.

***

Вось не чакаў, каб роздум так станіў:
нібы араў, асеў на плуг у полі.
Над Беларуссю лётаў херувім
і ў гурт збіраў напуджаных анёлаў.

І мне з зямлі –
дальбог, я не маню –
як гурт анёлаў, добра бачна й гэта:
дзве тышчы шосты год вясну мінуў,
Купалле. Хутка палавіна лета.

І хочацца да брата, на Амур –
мо ў сто разоў за Дзвіну шырэйшы,
ці шчэ куды – абы далей адсюль,
каб не пісаць пра Беларусь больш вершы.

У сінім моры белы карабель –
я колісь гэта з пірса Ялты бачыў
і ўцёк адтуль галодны, а рубель
пакінуў на вяртанне ў вёску Радчыцк,

дзе, рыхтык мора, пеняцца палі
і па якіх дзіцяткам бег у школу,
не ведаючы шчэ, што на Зямлі
жыву ў краі напуджаных анёлаў.

***

Улетку часта млявая душа
і цела мае форму кроплі.
Мне зразумела: Божа прымяшаў
да пахаў лета маку і каноплі.

І гэты стан не горшы ад другіх,
калі я добры і калі злуюся.
Улетку, зрэшты, самы дарагі
і любы сэрцу воблік Беларусі.

Улетку ўдосталь сытыя ваўкі.
Я ваўкалакам стаў з тае нагоды,
што толькі вонкі добры род людскі,
і толькі вонкі добрая прырода.

# Стрыжы

Каменнепадамі стрыжы…
Быццам з берага-гары
гэта чорныя глыжы
на пагібель машкары.

Піск, віск, енк  і нават звон
над  Заходняю Дзвіною.
І яшчэ антыцыклон
на жывое йдзе вайною –

ад спякоты не ўцякчы.
Ні хмурынкі, ні аблока.
Паглядзіш  удалячынь –
там цыклоп залатавокі,

сіні-сіні, зліўся з небам…
Месяц  Ліпень у бядзе.
Паліваць вадою трэба,
а не то ён прападзе.

***

Хутка восень. Верная прыкмета:
у Прыдзвінні многа сумных твараў.
Не ўдалася жытухна за лета,
хоць увесну шчасця абяцала.

Ад людзей, ад суму абалдзелых,
я ў вусах хаваць усмешку мушу:
хоць у садзе вішні парадзела,
ды ўрадзіла незвычайна груша.

З мой кулак уважыстыя дулі
гойдаюцца на галлі высока –
быццам для прахожых сад згарнуў іх,
каб не сеў “ячмень” каму на вока.

# Начны  цягнік

У Наваполацку бракуе цішыні:
начны цягнік яшчэ здалёку чутны
і, мне здаецца, як чарвяк магутны,
праз цемру точыцца ён да светлыні --
а там вакзал, там ляскат, куродым…
У Наваполацку спаць добра маладым.

Аднак сусвет дзіравы ахіне --
й пабуджанаму ноччу мне няўтульна;
дый цені шчэ распачынаюць гульні --
мардасты  месяц хмыліцца ў акне.
Было б, напэўна, важна і карысна
па пысе даць яму, нібыта ненаўмысна,
каб скрыўся ў хмары і надоўга знік --
й шалёным ценем не імчаў цягнік.

Вады нап”юся, фортку  расчыню --
нібы ў калодзежы, там свежасць, прахалода.
А грукат коціцца ў кватэру,як калода,
які даўно ўжо разбудзіў сям”ю.
…Прастора сноў аціхне, аддрыжыць --
я лягу спаць, каб зноў праснуцца жыць.

# Мыйшчык празрыстасці

Калі  гляджу праз вокны на апастылы горад,
дык хочацца зляцець адсюль высока ўгору.
Я здзейсніў бы палёт як ліст, узняты ветрам , --
-перашкаджае шкло у колькі  міліметраў.

Я прынясу вады і вымыю празрыстасць –
не церпіцца мне ўбачыць свет без здрадцаў,
чысты.        .
Прапалашчу анучу, прасохне ля каміна –
яна важней за сцяг, бо з абноскаў сына.

Я зведаў: небяспечна быць не злым і чулым
на свеце, поўным здрадцаў, вартых добрай кулі.
Яна з касмічнай стрэльбы ўжо ляціць па ўдачу.
Я вымыю празрыстаць, каб пакаранне бачыць.

***

Пахне зверам над Дзвіною лес.
Каб не звер – тады па самы корань
спляжыў бы яго я ўвесь –
для душы бракуе мне прастору.

Ці ж Дзвіна – вялікая рака?
Не хуліў ніколі ейнай славы,
толькі з погляду палешука,
край прыдзвінскі цесны, нецікавы.

Ноччу ў доме дамачадцы спяць,
я ж не сплю, шукаю ў небе зоркі –
над Дзвіною зрэдку іх відаць.
Сінь палеская ўяўляецца на золку.

І імчыць за мной лясісты звер,
я ратуюся ў дзвярах аптэкі....
...Сеў на мель мой мройны карабель
на чужым шляху з варагаў у грэкі.

***

Калі  і  ёсць дзе хараство,
дык гэта Полацк над Дзвіною.
Яшчэ ад Бога рамяство –
яно са мною.

Дзе жыў, дык тое і спазнаў.
І вось цяпер не нахвалюся:
я да каўша любві прыпаў –
і не нап"юся.

Я на Сафійкавы званы
палескае давесіў слова,
таму ў паэзіі яны
гучаць нанова.

І просіць полацкі архіў
аддаць яму на захаванне
нататкі ўсе аб тым, як жыў…
…Жыцця прызнанне.

***

Спазнаць бы ўрэшце мне: ці ўсё-ткі ёсць любоў?
Я сам шматкроць падманваўся, бо верыў.
Не шкадаваў заўжды ў сваіх прызнаннях слоў,
бо знаў: на слых пачуцці не праверыш.

Хіба што сэрцам?.. Ды ж яно трымціць –
на гэтулькі жыццё яго стаміла:
вось-вось душа на неба паляціць,
прыдбаўшы на палёт анёлаў крылы.

Здавалася б – нібы гару спіхнуў…
Ды моташна, бы чуеш дождж дробны.
Скурожуся, скрыўлюся, уздыхну…--
і ў гэткі час сам ад сябе падобны.

А вось калі б"е навальніца ў дол?!.
З"яўляецца, нібы з нябёс, мужчына.
Ён мае на зямлі жанчыну, сына, дом,
віно, сяброў, пісьменства без спачыну…

Спазнаць бы ўрэшце мне: мо гэта ёсць любоў?

***

Няўжо й на небе ёсць турма
і кінуць там душу за краты?
Што перад небам боязі няма –
я вінаваты?..

Шчэ мне аддасца і за прыгажосць.
Галон вады з Дзвіны я выліў у Піну –
не стала Піна хуткаплыннай…
…Сентыментальны станаўлюся штосьці.

.

***

Ад  лета  першага майго
(было маленькае)
да лета 2000 г. –
то часу жменька.

І бачу я: сачацца дні
між пальцаў Бога –
ці шмат іх шчэ на далані?
Ён  чэрпаў многа,

каб я адчуць таксама змог:
менш сонца грэе!..
Зямля, радзіма, сонца, Бог… --
усё старэе.

# Шкло
(трыпціх)

1

Я ў доме сам. Выходзяць вокны ў сад.
А там, за шклом, дзівоснае здарэнне.
Там дрэвы гойдаюцца, толькі не шумяць,
Там пчолы лётаюць, ды не чуваць гудзення.
Там дзеі дзеюцца, нібы ў нямым кіно:
Вось жонка “ружу поліць, белы ручкі коліць…”
Нібы аглухлы, я гляджу ў акно,
Такі знямоглы я не быў ніколі.
Я змог дастаць з вышыняў Зорны Коўш,
Каб піць натхненне залатога неба.
Ды ці патрэбна сёння прыгажосць,
Калі Радзіме воля непатрэбна?

2

У садзе дом. У вокнах дома – шкло.
А там, за шклом, містэрыя нямая:
Сядзіць над аркушам пісьменнік за сталом
І рот бязгучна-смешна разяўляе.
І не ўцяміць: ці спявае штось,
Ці Богу скардзіцца, бядак, дарэмна –
Ён змог дастаць з нябёсаў Зорны Коўш,
Ды прыгажосць сягодня непатрэбна.
Не хочуць покуль людзі зорнасць піць.
Ці не ўмеюць? Коўш для іх вісіць…

3

Юдоляй знічкі стаў халодны глыж.
Патухлых зорак шмат на Беларусі.
І б”ецца сэрца аб нацельны крыж
І гойдае распятага Ісуса.
Ля дома на траве нябесны глыж ляжыць…
Ці расчыніць акно, ці лепш яго разбіць?..

***

Кожны дождж --
не з”ява прыроды,
Гэта большае нешта, не йначай.
Рыхтык неба, і я вельмі горды.
Спахмурнею – заплачу!

Паказальна:
хаця і не часта,
І маёю слязой свет паліты,
Бо дарэмна мроіцца шчасце,
Дзе прыгнечаны люд паспаліты.

Дамагаюцца ў неба прызнання –
І яно сваім болем цярушыць.
Кожны дождж для мяне –
катаванне,
Быццам слёзы самой Беларусі.

***

І ліпень мне спакою не прынёс:
Бяспраўны жыў, таму карцела права.
Ды полацкі бясконцы дождж…
Такая гіблая дзяржава!

Няўжо азёры ў неба пацяклі
І Полаччына стала нецікавай?
Аднак мой сын ёсць сын тае зямлі…
Такая блізкая дзяржава!

Адгоніць восень ад мяне бяду –
І буду я ў кастрычніку яскравым,
Калі  яскравы нават дух…
Такая дзіўная дзяржава!

Раз трэба – ў дождж пайду  я па ваду,
І стрэне палачанка, і праславіць:
“Давай, паэт, у дом свой завяду,
Спачнеш са мною ад дзяржавы.”

***

Бог падабрэў ка мне і дараваў грахі,
калі грашыць ужо не стала сілы.
І ты, Любоў, мяне памілуй –
твой суд не Богавы, ды самы найцяжкі.

На небе неба ёсць, таксама й сонца ёсць,
і там я выйду за ваколіцу Сусвету…
Калі быў рай – дык гэта маладосць:
была кахання цэлая планета.

***

Ноччу неба –
бы капшук з махоркай.
На закрутку я адсыплю зорак,
запалю – і паплыве туманам
аб жыцці прыстойным мая мара.

То не сон, аднак, і не бяссонне –
гэта смокча чорнае бяздонне:
не ўтрымаць мне груз жыццёвай стомы
на зямным краі касмічнай стромы.

Не штурхайце! Дайце дапаліць мне,
бо з туману сонцу быць у зеніце,
бо святлу быць і ў краіне хмарнай…
Не, не будзе мара мая марнай!

# Жнівень

У жніўні знакаміты зарапад ,
а я то сплю, то бачу хмары ў небе –
нібыта порысты, з арэхам, шакалад,
каторым я, аматар піва, грэбую.

У жніўні аксамітавы сезон –
і ў пляжным статку файны адпачынак:
кладуся ніцма ў цень пад парасон
між рыхлых баб і цвёрдзенькіх дзяўчынак.

У жніўні шчэ  з”явіўся я на свет:
быў сёмы дзень, па-летняму гарачы
(пра гэта сведчыць дакумент),
а месца нараджэння – вёска Радчыцк.

У  жніўні… Стоп! Куды мяне нясе
ў прызнаннях дробных, ды яшчэ і ўпартых?..
… Мяне ж не бачна ў жнівеньскай красе,
калі і  бачны – нічога не варты.

# Шэсцьдзесят другое лета

Ад суму лечыць паспяхова лета,
як на прастуду хворага маліна.
Па сэрцы й мне парою гэтай
усходне-еўрапейская краіна,
з якою ў грамадзянстве ад народзін
як прадстаўнік тутэйшага народа.

О лета, сваё ў дошку, беларускае!
У Наваполацку паўліпеня дажджыць.
І ён пакрыўся парасоннаю луской,
нібыта без вады не можа жыць.
Ягоны герб-лілея весяліць мяне:
мо водзяцца русалачкі ў Дзвіне?

Прабач, Цар неба, што цябе даймаю,
душа дурная шмат чаго хацела:
улады, славы… Вечна ж не ўтрымае
яе з такім багаццем цела.
А тут –
шэсцьдзесят другое ад народзін лета…
Паклон ніжэйшы, Божанька, за гэта.

***

Між мной і восенню пазначыўся разлад:
мне – сонца дай; яна ж дажджу больш хоча.
Сумуе мною гадаваны сад –
не спіць таксама ён часценька ноччу.
Мы думаем – каб крыўду так суняць –
што з-за яе і птушкі адляталі
ў напрамку тым, дзе выбухі грымяць:
Ірак, Ліван, турэцкая Анталья…

Ды ўсё-ткі восені жадаю я дабра,
якое я сваім жыццём прыўмножу.
На Беларусі  Вося ў малярах –
запэцканая фарбамі прыгожа.
Я разумею: трэба ёй дажджу,
і нават трэба ёй дажджу багата;
яна ж на Ўсходзе носіць паранджу,
і там вяртанне птушак лічаць святам.

Мой сад не скардзіцца,
                              пакрыўджаны,  маўчыць
і пачарнеў у трыванні гэтым.
Павольна пырскай фарбы ліст ляціць
і прыліпае да планеты.
І верыцца:
                    перажывём
мы з садам дружна восеньскія пыхі!
Зямля ў нас ёсць,
                              у нас ёсць дом,
які міне абавязкова ліха.

# Цені

*Сябру Кастусю Жарнасеку з павагаю*

Цень верасня – нібыта херувім;
апроч мяне,
яго не бачыць кожны.
Калі мы йдзём і пасля стаім –
трывожна!

Трывожна нават і ад сінявы…
І гэтае нябачнае нікому:
люд топча апантана
цень травы
і насякомых.

Люблю я восень: дзеці ў школу йдуць –
прыгожыя,
як спрэс на свеце дзеці;
яны ў руках букецікі нясуць –
прыгожыя,
як кветкі ўсе на свеце.

Расказвае мне Жарнасек Кастусь,
як быў для немцаў
малалетнім вязнем…
… Няўцямная ты ўсё-ткі, Беларусь,
а цень твой – назва!

Па-над Дзвіной вісіць бетонны мост,
цень ад яго –
бы чорная "вясёлка":
вось па такой зганялі на пагост
анёлкаў.

Кастуська выжыў. Сёння поплеч з ім
я дробненькі
сівавалосы хлопчык…
Мы йдзём па Полацку, па беразе Дзвіны,
і цені топчам.

***

У маім садзе, ды ў агародзе
не ўрадзілі й сёлета вішні.
Высеку іх, лянівых нягоднiц,
хоць і не ўхваліць гэта Ўсявышні.

Над маім домам, ды па-над лесам
клінам ляцелі дзікія гусі.
Помню: на поўдні мой вырай – Палессе.
Высеку вішні – туды сабяруся.

Ох, награшыў жа я ў сваім садзе –
гэта завецца асенняй работай!
Толькі спачыць на лаўку прысяду –
і падкоціць да горла гаркота.

За перазвонам, за недазвонам
чуецца нечай пранізлівы голас.
Ведаю: гэта ахвяраў праклёны,
што за сякеру хапаўся раз-пораз.

Па-над Дзвіною, над маім садам
нізка ляцелі дзікія гусі…
Божа, навошта дом збудаваў я
тут, на паўночнай зямлі Беларусі?!

# Чужая восень

Пачатак верасня, упартыя дажджы –
як з жонкаю сварліваю – нязносна.
Як мне далей у гэтым свеце жыць?
Чужая восень!

Ці ж я такіх залеваў заслужыў?!
А парасонам крыху захінуся –
ні жорава, які між хмар кружыў,
ні Беларусі…

Душу і тую – быццам нехта скраў…
Жыву-кручуся ў сне-калейдаскопе…
Прачнуся – навакол біблейскі рай –
сярод Еўропы!

***

У восені перадынфарктны стан.
І мой стан ад ейнага – не лепшы.
А тут яшчэ запіў
Стрыечны брат Сцяпан…
Адкуль жа, людцы, ўзяцца светлым вершам?

О, мне вядомы і другі настрой,
Калі пачуцці ўспыхваюць, бы порах.
А гэты вершык – ад журбы маёй,
Бо ў нас на трох нявыказнае гора.

Анёлкам белым з неба нада мной
З уколам-кропельніцай
Медсястрычка Вера…
Чамусьці пахне хвояю зямной…
Напэўна, Бог яшчэ жыцця адмерыў?

***

У піваварaў паэтычны плён,
і спазнаеш яго за кухлем піва.
Вяду падлікі пенсіённых дзён –
і я шчаслівы.

А свет агромісты, там люд кішма кішыць:
грызецца, сварыцца, чапляецца за ўладу…
Я налаўчыўся гэтак жыць –
і рады.

Жаўцее клён, і кветнік шчэ ў акне.
І дрэвы з кветкамі таксама маюць вочы.
Ды ўбачыць іх перашкаджае мне
пяшчота позняя ў позірку жаночым.

Гандлярка півам рыхтык жоўты клён.
І піва рыхтык з вадкага бурштыну.
У піваварaў паэтычны плён:
кветнік, клён, пяшчотная жанчына…

# На сонцы

*Генадзю Бураўкіну*

Прыдзвінская восень – як наша жыццё.
Ці ж боскае гэта тварэнне?
У неба,
дзе ўлетку
шумела лісцё,
Глыбока ўраслося карэнне.

Я доўга шукаў тут
натхнення зару
Па полацкіх даўніх прыкметах
І думаў:
вось фарбы да слоў падбяру –
І стану найлепшым паэтам.

Што вырасце з неба,
дзе халады,
У нашай зямельцы? Дарэчы,
У нетрах і сонца…
Справодзяць туды –
Ляжыцца там рыхтык на печы.

Халодны агонь
ападае наўскос –
У неба ўрастае карэнне.
Прыдзвінская восень…
Няўжо гэта лёс,
Паэзіі благаславенне?..

# Майстэрня мастака

Напэўна, й Бог мой клопат не палепшыць –
мая душа не ладзіць з целам:
яму не час яшчэ на кладах легчы,
яна ж – на неба захацела,
і мне з таго ні страты, ні карысці,
як і няма ад гэтакага ладу:
заўчасна з дрэў апала лісце,
хоць і пачатак лістападу.

Надвор”е – страшна з дому выйсці:
увосень у Прыдзвінні слотна.
Адно ў майстэрні Лук”янава Віці
вясна і лета на палотнах,
а сам мастак – вялікі знаўца фарбаў,
не то што я, няздара ў напісанні:
пішу пра лета – рыхтык лялька Барбі,
зіма ў мяне ў абліччы белай здані.

Люблю свой род, жанчын кахаць умею,
пра што паэзія не церпіць крыку.
Мо ў знак таго, што гэта разумею,
Бог да сябе маю душу паклікаў?
А на Зямлі
у Лук”янавай майстэрні
вясна квяцістая
і гэтакае ж лета –
то да мастацкіх зор праз церні
ляціць няўрымстая душа паэта.

# Страта

*Памяці брата Сцяпана*

Мой дом адмыслова паблізу ляснога возера
Люхава.
Я адчуваю яго прыцягненне, спынюся і слухаю,
як ападае лісцё на ваду і ўзнікаюць кругі…
Кастрычнік 2008-га года для мяне 62-гі.

Кастрычнік 2008-га года для мяне – чужы.
Памёр брат Сцяпан, хоць маліў Усявышняга:
выратуй і зберажы!
Стаў свет рэзанансны:  спынюся і слухаю –
пажар на Заходняй Дзвіне і на возеры Люхава.

Кастрычнік 2008-га года для мяне – спасціжэнне
віны.
Іскрыць лістапад, прастора Заходняй Дзвіны
ахоплена полымем, чарнее вуголлем вада…
Згарыць Наваполацк – будзе не шкада!

Згарыць Беларусь – вось каго, мабыць, і пашкадую.
Любіў я яе, як і брата, толькі другую:
не аўтарытарную. Так ёй аддана служыў,
што родную, палешуцкую, мову забыў.

Дзе ж ты цяпер, мой 54-хгадовы брат,
нараджэнец Палесся?
Чаго ў Наваполацку я? Па навакольным лесе
між возерам Люхава і Заходняй Дзвіной
панатоптваў сцяжыны-кругі?
Кастрычнік 2008-га года для мяне 62-гі.

# Пакровы

Я рады стрэцца з вамі зноў.
Каб не Пакровы, юным стрэў бы;
І снег наносны не бялеў бы
Ў маіх кудзерках валасоў,
Які не вычасаць, не змыць,
Адно пад фарбаю схаваеш…
Калі  любоў  ёсць – я любіў,
І гэтае  дакладна знаю.

Ёсць песні смутку, і груган
Знайшоў мой дом, крумчыць з яліны
І быццам уводзіць мяне ў зман:
Маўляў, то голас – жураўліны!
А жураўлі лятуць узбоч
Майго жытла й гнязда паганца.
І ў маразы мне з ім удвох
На Беларусі заставацца.

Я выжыву,
нат з чорным госцем,
Бо верным донарам -- каліна!
Ах,Восень любая, навошта
Час нашых жыццяў хуткаплынны?
Ды ад знаёмства да любові
Былі і раніца, і вечар...
… А сёння срэбныя Пакровы
Пад залаты агонь у печы.

# Невыказнае

*Герману Кірылаву*

Мне б невыказнае таленавіта выказаць.
Паэзія –
не доля вершатворцы.
На шчасце, хмары, бы фіранкі, вісну́ць,
інакш апёк бы вочы я аб сонца.
На шчасце, попыт на рамёствы ёсць,
і просяць вершаў нават для дзяржавы…
Стварыць бы з слоў жывую плоць… –
не дзеля грошай і не дзеля славы!

Што там, на небе, дзе сама Зямля
варонай белаю ўсям”і планетнай?
А ў нас зноў восень. Не апошняя.
Пакуль ёсць сілы – разумееш гэта.
Па календары за восенню – зіма,
мой лепшы час – да снегападу.
Краіны Леніна даўно ўжо няма,
ды ўсё гаруем і ўспамінам рады.

Мой сябра Герман, мы за родны край
заклалі Богу свае сэрцы й душы,
ды маем бальшавіцкі Першамай
і ў нашым садзе вымерзлыя грушы.
У невыказнага, напэўна, светлы змест:
нібыта рысы маці на партрэце,
нібыта радасць усіх нявест,
узятых разам у гэтым жорсткім свеце.

# Каханак восені

Шчодра дорыць дні кахання восень,
быццам золатам вышэйшай пробы –
гэта мера і маіх адносін
да яе як боскае асобы.
Быць каханкам палкім не стамлюся
з прыма-прыгажуняй Беларусі.

Хто кахаў, той сціплы на прызнанні,
бо няма кахання без даверу.
Я губляў прытомнасць у каханні –
можа, гэта й ёсць каханню мера?
Восень мне спакуслiва шапоча:
навучыць кахаць па-боску хоча.

Гэй, душа, не йрвыся порстка ў высі –
і з малітвай будзеш там пранырай.
Там цяпер птушыныя абрысы –
птушкі ў зграях даюць дзёру ў вырай.
Моташна душы ў рабрынах-клетцы…
Восень з тых пакут маіх смяецца.

А хіба каханне ёсць без суму?
Скуль жа ён? І што яму прычынай?
Можа, пах французскае парфумы
ад шляхетнай полацкай жанчыны?
Восень зазлуе, дажджом астудзіць:
а ці будзеш?! а ці будзеш?! а ці будзеш?!.

Я пралюбадзейнічаў з каханай
і кпіў з Бібліі, якую склалі людзі
пра свае адвечныя заганы.
Рай спаскудзілі і зямлю спаскудзяць!
Восень спахмурнее чорна-шэра --
раіць ведаць у каханні меру.

Гэта класіка: ў каханні слодыч мёду.
Зноў класічнае – і гарката палыну!
У маім каханні – пара года,
ды яшчэ з характарам жанчыны.
Восень велічна падпусціць да запясця,
каб яе пыхлівасць мог трываць я.

Я ў каханні непапраўны дурань,
хоць і быў нярэдка вельмі смелы.
Толькі гэтак пра сябе падумаў –
Беларусь напраўду стала белай.
Восень схаладнее, як адрыне --
на, вяртайся да сваёй Айчыны!

Мабыць, ёсць каханне і без суму.
Мякка ў доме полацкай жанчыны.
Млосны пах французскае парфумы…
Не, для суму ўсё-ткі ёсць прычыны.
Падыду к Айчыне, ціха ўткнуся ў плечы.
Побач восень шэпча: “Да суст-рэ-чы-ы…”

# Цяжка…

Я не тлусцею, прыцягненне Зямлі не мацнее,
ды маё цела штодзённа паскудна цяжэе.
Пэўна, слабею… Здаю на аналізы кроў –
і чую: “Здаровы!”

Я памерлую маці клічу па-роднаму: “Мамо!”
Свінцовая куля выліта дзевяці грамаў…
А Палессе й Прыдзвінне – нібы два цуды…
Не забуду!

Не забуду: паўсюль янычары і суддзі;
для эліт ёсць бальніцы, для смерці – элітныя людзі.
Мочыцца жоўцю пад сябе паралітык –
гэта кастрычнік.

Божа!.. Мой Божа – як непатрэбная ноша.
Між Зямлёй і Сусветам не існуе яшчэ пошты.
Стогнуць на холадзе абледзенелыя вішні –
пэўна, і ў дрэў ёсць Усявышні.

Вывучыць пацеры змог бы, ды не хачу я;
часта ўначы зпрасонку крычу я,
быццам з Сусвету прыйшла тэлеграма…
Цяжка мне, мамо!..

***

Сіняе неба – неба параднае.
Не надзіўлюся:
Бог, як захоча, надвор"ем парадуе
і беларусаў.

Цяжка ўзыходзіла сонца чырвонае,
потым заззяла.
Многа ад жару пялёсткаў ягоных
лісцем апала.

Выйду я ў свет па садовай дарожцы,
гэтае лісце,
файны зрабіўшы венік бярозавы,
вымету чыста.

***

Восень гордая, ды тое не грэх.
Горды я – вось што загана.
Я курлыканне чую,
                    быццам мне смех
адрасаваны.

Па маіх пуцявінах сыну крочыць далей.
Выспацца б мне, каб пайсці за ім следам.
Будзе мой дом,
            што з ялін,
                        у элітным святле
андрамедавым.

Хто другіх не любіў, таго слава міне.
Таму гордасць сваю
                    крыўдзіць я мушу.
Злістападзіцца восень,
                    прыйдзе зноў да мяне
Папялушкай.

***

Жыву ў кастрычніку, а восені няма.
Паўсюль сляды чужыя на дарогах,
бы іерогліфы кітайскага пісьма –
не ўцяць нічога!

Я нешта важнае, напэўна, не збярог:
вісіць пустою скрынка пошты…
Канешне, восені даслаць бы ліст я мог,
але – навошта?

Навошта мне зноў жоўты лістапад ,
які шматкроць за паўстагоддзя бачыў?
Калі жыццё пайшло на спад –
глядзіш іначай.

Цяпер на кожны страх мой і кашмар
карчма стаіць ратункам пры дарозе.
Напоўніць келіх мне карчмар –
і я цвярозы.

Шчаслівы я адно на фота ёсць –
знялі ў анфас для пашпартнага ўліку.
А да свабоды – мільярды вёрст!
Шлях невялікі.

Як лёгка крочыць мне па ім у рай!
Вось адпачну ў карчме пад гоман рускі –
й бывай, Манкурція! Прощай же, край
нью-белорусский!

Там, па-за восенню, то лета, то зіма,
і там бракуе для душы свабоды…
…Кастрычнік ёсць, а восені няма –
то стан прыроды.

# Стод

Апоўначы яе не стала,
Калі свет лёг спачыць ад тлуму.
Памерла Восень,
Не хавалі,
І я ўсю ноч пра вечнасць думаў.

Я думаў пра нябесныя шляхі,
Бо шлях зямны мне ўжо абрыдзеў,
На ім – вайна, балююць злыдні,
І я – з такіх.

І я таксама Восень катаваў –
Шматкроць сваім радком зняславіў.
Не каяўся – і стодам стаў
Прад веліччу яе адвечнай славы.

Я ўрос па сэрца ў родную зямлю,
Каб распусціцца кветкай смерці…
…Калі пачуеце, што Беларусь люблю,
Паверце!

***

На грывастым сонцы праскакаў
Ясны дзень асенняю дарогай!
Дзён у Бога незлічона многа,
Ды шкада, што ясны дзень прапаў.

Не хачу я наракаць на лёс,
Хоць жыву нібыта на пажары:
Куродымам ходзяць хмары,
Бы са шланга  лье няспынна дождж.

Ясны дзень, вярніся да мяне,
Асядлаю я з табою сонца,
Што пасецца на лугах японскіх.
Хочацца агністасці і мне.

***

Настрой такі, як дзяржаўны сцяг;
заклаўшы пальцы ў рот, вятрыска свішча –
забыў прыблуда, што ў мяне ў гасцях
ён адсыпаўся на гарышчы.

Зайшоў сусед пазычыць сто рублёў –
бо гэтулькі на пляшку не хапала;
і я ў чаканцы жураўлёў
уцяў: сумота мне яго паслала!

Суседу я дабавіў грошай шчэ,
і ўжо ў зацішку чорнай арабіны
я слухаў, як "курлыканне" цячэ
са шкляной шыі, быццам жураўлінай.

# Закон любві

Каханая, законы ёсць любові:
Даўно к табе мяне раўнуе Восень!
Яе маўклівасць – лепш за шматгалоссе,
Дзе пачуццё – там не патрэбны словы.

З кубла сваёй сярмяжнае Айчыны
Гатовы й я зляцець у вырай.
Каханая, табе я тайну выдам:
Няма самоты ў крыку жураўліным,

Бо жураўлі  вяртаюцца к Вясне.
І я ў любові вельмі палахлівы…
Каханая, з табою я шчаслівы,
Ды к Восені раўнуеш ты мяне.

***

Цябе стварыў Бог вечна маладой.
Навошта ж  ты мяне даймаеш, Восень?
Кахання не бывае досыць,
А мы кахаліся, нібы агонь з вадой.
Жанчыны Вечнасці, прабачце
                                        вы хоць раз:
Зіма,
Вясна
І ты, паненка Лета.
Я – усяго смяротнік сярод вас
І кат любові старазапаветнай.
Дык што ж з таго пазнання  я збярог,
Што ўцешыць сэрца і душу спатоліць?
Я – муж, я – бацька, я – магутны Бог,
Калі каханне стала  маёй доляй.

***

Характар Восені, як і мой, -- цяжкі.
Маю любоў к дачкі найпекнай Часу
даследчыкі адкрыюць праз вякі
і аднясуць яе ў разрад сучасных.

Я з ёй сустрэўся ад людзей паслом;
быў першы дзень, калі лічыць ад лета.
Я расчыніў шырока дверы ў дом –
яна ўвайшла жаданаю кабетай.

Калі вы ўбачыце вясёлы лістапад ,
як сонца ў небе саспявае дыняй,
то ведайце: маё жыццё ідзе на лад
пад доглядам руплівай гаспадыні.

# Сам-насам з Восенню

Пані Восень, што са мной вы робіце?
Сталасць помсціць маладым гадам.
Божа мой – і гэта мне не мроіцца –
Салаўі ў кастрычніцкіх садах!
То не дождж пяе і звонка цохкае
І не спіўся я ў піўным шынку,
Хоць Радзіма – як дзіцё сіроцкае
І чужынцы кпяць з яе пакуль…

Можа, хтось скланіраваў каханне?
Ох, даўно такога не было:
Быццам упершыню абняў жаданую
І адчуў дзявочае цяпло!
То не слота грэе ўжо душу знямоглую
І не здолеў розум я прапіць,
Хоць Радзіма – як жабрачка з торбаю,
Хочацца ёй за чужынцам жыць.

Не жабрак я, не трываю кпінаў,
Маці быць не можа сіратой…
Пані Восень,
Станьце мне Радзімай –
Будзеце заступніцай маёй!
То не слота грэе ўжо душу знямоглую,
То не дождж пяе і звонка цохкае:
Салаўі ў кастрычніцкіх садах!..
…Сталасць помсціць маладым гадам.

***

Мае малітвы ўжо з апошніх сіл.
Нябесны Цар, нашто паслаў глухую?
Бо колькі б ні гукаў ці ні прасіў
Пачуць мяне – яна мяне не чуе.

А гэты грэх гарэлкай я заліў,
Хоць, ведаю, не вельмі дапаможа:
Я хату Восені на шчасце падпаліў –
О, як гарыць яна для ўсіх прыгожа!

Радзіму дачакацца бы!..
Хвалу спяю,
Кананізую я красу яе ў святыя…
… Усе малітвы,
што раней стварыў,
спалю,
Бо раз не чутны – словы не жывыя.

***

Світае. Ноччу выпаў снег,
а я да гэтай з”явы не гатовы,
бо доўжыў па Паэзіі турнэ,
шукаючы красы асенняй словы.
Гляджу: і ў грубцы сцюжа пабыла--
нядобрая для жытла прыкмета.
А мне так хочацца цяпла –
звычайнага, хоць бабінага лета!

Шчаслівы я, бо пачынае днець –
дажыў да дня; і вось цяпер я маю
другую восень, быццам у сівізне…
Яна па сэрцы мне й такая!
Цяпер іначай трэба будзе жыць:
паліць у грубцы,
з коткай слухаць вецер.
Снягір са Швецыі
ў сад наш прыляціць
і падзяўбе каліну ўсю на вецці.
Не стану больш пісаць асенні верш,
хоць Нобелеўскай прэміі ён варты,
бо найважнейшае найперш –
вось гэты ранак з холадам упартым,
які нясе трывожнае святло…

… І ўсё-ткі  пану Нобелю для роздуму пакінем:
агонь у грубцы, котка, вецер, дом,
снягір са Швецыі на полацкай  каліне.

# Першы снег

Гэты верш – абы што, бракуе душы.
Не паэзія гэта. Дарэчы,
беларускі дзень шэры, пішы не пішы –
радасць скалечыць.

Зноў ілжэ каляндар: у лістападзе зіма!
Стала снежна, значыць, і бела…
Ёсць і ў нас безнадзейнасць, і свая Калыма –
вобразна, смела!

Што ёсць сум? І каханне? А Бог?..
Хоць бы краем вока угледзець.
Добра што сэрцам адчуць я іх змог
недзе.

Мне здаецца, што снег назаўжды, на вякі –
за апошнім падае першы.
У Прыдзвінні працяжна завылі ваўкі –
от бы спеў той пакласці на вершы!
У-у-ва-а- у-у-ууу…

# Абраннік агню

Лістападаўскі дзень для паэзіі дрэнны.
І настрой адпаведны – хутка ж зіма.
Спарадкую ў дрывотню сухое паленне –
па-за творчасцю нельга час марнаваць.

Зрэшты, гэта лухта, што з цэнтру Еўропы
я імкнуся на неба. Я стаў разумець
справядлівасць. Навекі цара і халопа
ураўноўвае смерць.

А паленне роўна на топку насечана…
Я абраннік агню, тым не менш,
мною шмат лёсаў дрэў пакалечана.
Не скалечыць бы верш…

***

Мне б на Канары, ды грошай няма.
Зрэшты, я мора бачыў.
Крыўдна, аднак: прыйдзе зіма
й лёс перайначыць.

Дурні балбочуць навокал мяне
аб завеі, як цудзе.
Толькі я ведаю: выпадзе снег –
холадна будзе.

Холадам цягне ўжо ад Дзвіны,
хвалі не гойдаюць лодкі…
Ад маёй восені і да вясны
покліч кароткі.

Тым, хто не верыць, занатаваў,
памяць пакіну такую:
“Перавеснаваў.
Пералетаваў.
Перавосеняваў…
Пеpазімую!”

***

Гэты верш пачну я так: забалела цела.
Прыглядзеўся да сябе: звонку яшчэ цэлы.
Ні адзін з шчаслівых дзён на ўспамін не йдзе –
бы згубіў я колісь памяць невядома дзе.

Начытаўся кніжак я.
Гістарычных.
Зрэшты,
кніжкі гэтыя былі жудаснага зместу:
маскавіт заўсёды поруч, поруч і паляк –
замінаюць яны мне беларускі шлях.

На краю Зямлі стаю, скокнуць магу ў неба.
Пагразіў Бог кулаком: то рабіць не трэба!
Расказаць,
што сапраўды
на душы ў паэта?
Бог прыклаў да вуснаў палец –
не скажу пра гэта.

Паказаў Гасподзь мне шлях –
каб быў самастойны.
Праўда рознаю бывае,
ды заўжды прыстойнай.
Гэты верш я скончу так: падужэла цела –
і з агніста-залатой восень стала белай.

***

Апошні дзень  восені
(а гэта серада),
нібыта шчупак размарожаны,
з якога сцякае вада.

Багаты ўлоў адлігавы…
Блішчаць  здабычаю той
азёры і рэкі, як рыбіны,
з хвалямі-лускою.

Сафійка бялее на ўзгорку,
маторка імчыць па Дзвіне –
нібыта жалезнаю цёркай
шкрабуць па яе спіне.

***

Каварны дзень, калі ён з ліку зімніх.
Студзённа, ветрана –
ды ўтульна ў цёплым доме.
Мой жыццедайны шлях –
да магазіна,
а снег на ім –
спластаны, нерухомы,
які ляцеў на дом мой белай зграяй
і пудзіў тых, хто ў вырай не злятае.

Вазьму паперы аркуш,мелаваны,чысты –
й засею літарамі поле.
Шпак адарве мяне ад працы свістам,
зірну:
дальбог, бы аркуш мой,
такое ж наваколле.
Як там, у выраю?..
Хай шпак пра тое знае.
А тут: ад цяпла дома
снег паўсюль знікае!

# Глабальнае пацяпленне

Паўсюль па Англіі дажджы
(ды там яны заўжды).
Вышэй за нуль, плюс  дзевяць, у Парыжы…
Мой родны край таксама малады –
без снегу ён зялёна-рыжы.

Жыве зіма! Уважыстым сняжком
шпурну я клопаты, як мага, далёка.
Я патрыёт;
              мне ў краме малако –
найлепшы брэнд краіны сінявокай.

Хай вобраз белага звычайны, непампезны,
і рэй вяду ад хмельнага пітва,
лічу: павінен снежань быць усё-ткі  снежны
на той зямлі, дзе была Літва.

***

Без снегу снежань -- недагляд зімы
(вядомы мне яе жахлівы нораў,
і тыя дні, што быццам цені цьмы,
калі святло ўспрымаецца крамолай).

Такі настрой узімку ўжо штогод.
І холадна між вераснем і маем.
Хвалюецца пакорлівы народ,
што нават снег святлом не выпадае.

Як перажыць прыстойна цёмны час?
Чакаю святы: Новы год, Каляды…
Мой зорны друг – сузор"е Валапас,
за стол святочны разам з ім я сяду

і моўчкі свечку з воску запалю
для тых, з кім быў, з кім ёсць, з кім буду…
Жыву з жанчынай – значыць, я люблю,
і вельмі рады гэтакаму цуду.

***

Кахаць?.. Любіць?.. Каго ці што,
калі  ўжо сам стаў Богу роўняй,
калі спазнаны свет па поўнай,
калі і ёсць там што, дык то – нішто
ў вядомых формах. Да прыкладу, завея
заснежыла мой дом у горадзе сатрапаў.
Я ў паратунку ў новы свет патрапіў,
цяпер  інакш зямны свет разумею:
і ў форме горада, дзе месціцца мой дом,
і ў пекных формах хараства жаночага
(яно мужчын стамляе і зноў яго ім хочацца;
яно іява, адразу – і фантом).

Шкада, што свет зямны абмежаваны
той зрокавай адлегласцю прамой,
як бачу я -- і гэты свет ёсць мой:
я ў ім кахаў, таксама быў каханы,
як Бог. Няма ў багоў аховы,
таму я смела новы свет пакіну,
вярнуся звыкла да сваёй жанчыны,
расчышчу снег, пасля схаджу па дровы,
нацеплю дом  і... знямею  ў скрусе.
Кахаць?.. Любіць?.. А хіба так можна,
калі на сэрцы кожны міг трывожна,
нібы ад"ехаўся за межы Беларусі?

# Зіма ў Полацку

Дзень шосты снежня. На градусніку тры
па Цэльсію. Прыемна: нават с плюсам.
Студзённыя паўночныя вятры
не дасягаюць покуль Беларусі.
Не дакучае балбатня дажджу,
хоць і выразна чуецца праз вокны.
Зачараваны ім, праз шкло гляджу,
як да апошняй ніткі горад мокне.

Бяспрэчна, еўрапейская зіма
і ў Полацку, дзе, быццам у магазіне,
штодня тутэйшы люд кішыць кішма
ля помніка славутаму Скарыне.
Што мне яшчэ спазнаць рыхтуе лёс,
як гэты выбрык роднае прыроды?
Сцякае цемра з полацкіх нябёс,
каб сонца ўрэшце выйшла на свабоду.

Не па душы мне снег, мароз, ды ўсё ж
яны пачэсныя жаданцы ў маіх вершах.
А зімні дождж?.. Хай будзе гэты дождж
сардэчным пажаданнем долі лепшай.
Пачатак снежня. Па Цэльсію плюс тры.
Узімку жыць ніяк я не збяруся.
Вітаю я паўднёвыя вятры,
якія дасягаюць Беларусі.

# Грэшнік

Колькі жыў – столькі й грашыў.
Бог даруе мне ўсё як заблудзе,
бо Ўсявышняга я насмяшыў:
доўга верыў уладзе і суддзям.

Мне паказвалі лікі святых,
усхвалялі нядолю зямную.
Аказалася, верыў не тым
і не тым праспяваў алілую.

Я слязой па шчацэ працяку –
немагчыма жыць грэшна без стратаў.
Усміхнуўся Гасподзь мастаку –
і яго плён стаў “Чорным квадратам”.

І я ведаю: волі няма,
а свабода – ёсць тэрмін казённы.
Вось чаму ў межах часу – зіма,
і краіны ўсе ў межах – як зоны.

Там, далёка, за рысай зямной,
там, дзе віза зусім непатрэбна,
пасмяецца Ўсявышні са мной –
веру, жыў на Зямлі недарэмна.

***

З заходам сонца ціха дзень памрэ.
Чаканне дзён таму мяне вучыла,
што колькасцю жыццё над смерцю верх бярэ –
вось гэта прыгажосць,
вось гэта сіла!

І я спакойны:
што жыву – пралог.
І нават смерці менш цяпер баюся.
Стаў сын прыгожы –
быццам Бог,
яго люблю і на яго малюся.

Калі ж душа становіцца як ртуць –
іду ў шынок і там сяджу маўкліва:
абавязкова трэба мне адчуць
і горыч свету,
быццам горыч піва.

Мой мілы Бог,
за мары не карай!
Канешне, кепска, што яшчэ  мы людзі
і на Зямлі для нас крывавы рай…
Хай неба добрым эпілогам будзе!

***

Пачынаць новы год трэба шчодра:
з поўнай чаркай п”янкой насалоды.
Шар ялінавы – круглая морда –
падміргнуў: “З Новым годам!
З новым шчасцем, паэт незалежны!
Славы вартае гэткае званне…”
Я на святах гуляка прылежны
і паверыў мане ў пажаданнях.

А другую я чарку напоўніў
на Калядах – народзінах Бога.
Пад наглядам мардатае поўні
на Хрышчэнне за сына зямнога
выпіў трэцюю, як спяваў песню.
А пасля чару кропляў марозу
асушыў для натхнення, каб здзейсніць
помнік удзячнасці з моўнае бронзы.

***

За снежнем студзень, як заўжды, суровы.
Мароз здурнеў задоўга да Хрышчэння.
Калі ёсць дом,
ёсць печ,
ёсць дровы,
які мароз – не мае ўжо значэння.

І я ў цяпле да слёз удзячны лёсу:
яшчэ жывы,
яшчэ я разам
з тымі,
з кім слухаў на Палессі звон калосся,
з кім дбаў пра гонар скрыўджанай Радзімы.

Узімку востра адчуваеш: грэшны!
І так здавён –
адно цары
святыя…
Гляджу падоўгу, як гараць няспешна
ў печы дровы, што былі  жывыя.

І ў гэты час, бяспрэчна, навагодні,
мне вельмі хочацца
ў дадатак
да цяпла:
была б Радзіма сапраўды свабоднай
і каб яна шчасліваю была.

***

Гэты вецер заходні. Ён прыносіць дажджы.
Успрымаецца дождж ачышчэннем!
Разглядаю я ў слоўніку слоў муляжы –
не знаходжу такога значэння.

Падабенства няма. Дый падае снег
пад счужэлым вятрыскам мо з тыдзень.
Я блукаю штодня па яго цаліне –
гэты снег ужо нават абрыдзеў.

Божа праведны наш, зноў цяпло сатвары.
Дождж суцішыць і твары амые.
Шчэ жыве Беларусь, і яе змагары
не загінулі ўсе, ёсць жывыя.

Я збудую свой дом, стане дом той жытлом –
у дасягненнях мэтаў я ўпарты.
І жанчына ацэніць майстэрства маё
і чаго ў каханні я варты.

Я сальюся з дажджом, прамокну наскрозь.
Каб я жыў, Бог не дасць прастудзіцца.
Я ў дажджлівым краі нарадзіўся і рос –
буду гэтым заўжды ганарыцца.

***

Ад восені да самае зімы
я моцна спаў, стамлёны і збалелы,
і не ўбачыў змены міг –
цяпер жыву ў краіне белай.

Цяпер вяду другі адлік
любові, годнасці, сяброўству… --
без гэтага, калі адвыкнуць,
жыць лёгка, весела і проста.

Цяпер зіму нарэшце палюблю
і буду снегам смела абціracца,
і лыжы целяханскія куплю,
каб па прасторах творчасці катацца.

Зайздросцы здзівяцца: “Во дае Лявон!..”
А я з імпэтам, вартым зуху,
ўзлячу да зор. Мне ж наўздагон –
мароз, вятрыска, завіруха!..

# Расчыстка садовых
# дарожак ад снегу

Курыцца снег, студзённы вецер дзьме…
Вы знаеце, што думаю пра гэта?
Даць пэндэля бы ад душы зіме,
каб пакацілася да лета!

О лета, знакавае мне!
Я, нібы франт, і вакол – жанчыны,
і хоць адна ды на мяне зірне
як на жаданага мужчыну.

А тут снягі, якіх я не хачу,
і ў бок які ад іх ні адвярнуся –
бы снежнай бабаю ўваччу
пастава роднай Беларусі!

Я многа думаў, што такое лёс,
і прагу слынным быць спатоліў.
Даймаў мароз, ды не замёрз
я на заснежанай юдолі.

Яшчэ паймеў з жыцця маржу,
і не крычаў аб тым, бы з ляда…
Цяпер з лапатаю хаджу
на барацьбу са снегападам.

***

Яблыні  ў садзе ўзімку стаяць,
быццам знямоглыя з лесу алені.
Я ў іх страляю – добра гарацць!
Мучыць сумленне,

быццам за іх хтось хлыснуў батагом.
Хоць  я шчакою і лашчыў прыклады,
шчэ не застрэліў  аблічча свайго
пэўнага гада.

Добра, што й мне ўжо скарыўся агонь:
ежу рыхтую,  палю, каб сагрэцца,
і апёкам нашу гэты боль –
што ў самым сэрцы.

Выйду вясною ў садовы абшар
з ратавальнае хаты:
Божа, наўкол жыццедайны пажар
і… аляняты!

# Бяздомны пёс

Ад марозу студзень сам замёрз.
Не шкада яго за холад,
хай канае.
Рые лапай яму ў небе Малы Пёс –
пахаваем!

Пахаваем гэты месяц мы,
памянём пахучым хлебам,
што я з крамы нёс сярод зімы –
жыць жа трэба!

Перад мною мільярды дзён,
крышку з іх вазьму сабе й сабаку,
каб пачуць зноў сакавіцкі звон
добрым знакам.

А паветра!..
Як душа!
Можа, Бога?.. Ці сусвету?..
Ці таго Малога Пса,
што бяздомны над планетай…

***

“Мінус  дваццаць. Ветрана. І снежна.
Вусцішна ад зімняга разбою…” –
верш даносам пішацца няспешна.
Добра  й  тое.

Добра, што находзіць шчэ натхненне.
Люты ў Мінску. А ў панельным доме
ўсе плюс  дваццаць (можа, крыху меней)
для мяне і насякомых

(бо, ажыўшы, б”ецца ў шыбу муха).
Да вясны – зусім падаць рукою
праз мароз, вятрыска, завіруху…
Добра  тое.

***

Ні марозу, ані завеі…
Не да твару зіме з дахаў кроплі:
быццам нехта пакрыўдзіў яе –
і пусціла яна румзай соплі.

Пацяпленне!.. І гэты стандарт:
горка палення, агонь ў зеўры печы!
Выдзеліў лёс мне заслужаны грант
па-чалавечы.

Млявасць даймае, хочацца спаць –
значыць, працягнецца доўга адліга.
Мой талент добрыя вершы пісаць
перайшоў у вышэйшую лігу.

Адпачне ў нерухомасці рух,
для пачатку пачаткаў рухома
выслізне котка цёплаю з рук
па незнаёмае,

і зноў сцепануся… Пад плач зімы
хочацца чыстага, светлага, белага…
Рэха пагляду – з людзьмі дамы
пачарнелыя!

***

Вечнасць – гэта калі сябры,
калі віно і ўдосталь хлеба,
калі  ты сыты на цёплай зямлі
і бачыш зорнае неба.

Не разумею: нашто зіма?
Ні трох кітоў, ні блін-планеты…
Не ўбачыўся  з-за ярма
той свет, што завецца гэтым.

Штось  Усявышні наблытаў ува мне
і пазірае цяпер са смехам.
Гірчыць, як псіна, услед  мне снег,
а кроку наддам – заліваецца брэхам.

О Божачка-Божа, яшчэ не стары,
гляджу падоўгу я на аблокі:
даўно над імі мае сябры,
даўно пад імі я адзінокі.

І праясняецца, як растае:
там вочы знаёмыя, там позірк стрэчны  --
адно цеплыні  ім цяпер не стае…
Вечнасць!

***

Чорны колер – у ім святла няма –
паважчэй пліты груваасткай;
шаты пеклавы
 мо і не турма,
дзе таміцца пад замком няшчасце.

Скіньце, людцы, вы з мяне яго,
прыўзніміце голаў над Дзвіною,
дайце ўгледзець
з берагоў:
дзе Радзіма, ці яна са мною?

Я заплачу,засмяюся я,
ў ледастой адчуўшы пах чаромхі.
Ах, Радзіма,
любая,
не душыся, бо баляць мне бронхі,

быццам цягнуць вон жывой душу…
Божа-Божачка,
я хачу спакою!
Пакажыце,людцы, -- вас прашу –
дзе  Радзіма? Ці ж яна са мною?

***

Краявід беларускай зімы
Да дэпрэсіі ўжо супакоіў.
Гэта вецер?.. Ці чую псалмы
Шэра-белае паранойі?

Я стараўся ў прынцэсы займець
Меланхолію, бы Папялушку.
Гэтак месяц яшчэ – й загрымець
Можна геніем прама ў псіхушку.

Тэрмінова пазваў я сяброў
Для размовы – адкрытай і важнай.
Сотні соцень іх колісь было;
Сабраліся два з самых адважных.

--Зажурыўся бацянечка наш, --
Прытуліўся сыночак да сэрца;
Уздыхнулася жонцы: -- Алкаш…
…Далібог, так не страшна й памерці.

***

Ты, Зіма, мяне ужо дастала,
Толькі ўмееш: сцюжа ды мароз!
З-за цябе я дроў спаліў нямала –
Ціхіх  хвояў, трапяткіх бяроз.

Нешта мне яны сказаць хацелі,
Не пачуў  іх, быццам быў глухі.
Пад твае, Зіма, завеі
Я цяпер замольваю грахі.

Будзе ранак, будзе вечар,
Паміж імі распалю камін.
Я, Зіма, хачу з Вясной сустрэчы,
Пра яе ты будзіш успамін.

Зоркі  ў небе да адной прапалі,
А  дрывотню снегам занясло.
Ты, Зіма, мяне ужо дастала,
Я люблю Вясну, яе цяпло.

# Адліга

Прадвясеннюю склізь гераічна цярплю.
У зімы гэта ў генах:
напаследак пусціць па абшары саплю.
Хай будуць змены!

Хай будзе суха і зелена спрэс,
і вернуцца птушкі, і з”явяцца кветкі,
над імі туманам распусціцца бэз,
з яго, бы з сурветкі,
пах данясецца ледзь-ледзь гаркаваты…

У лютым бярэцца вясенні настрой,
і кожны стары з саплёй над губой –
маладцаваты!

# Раздзел другі

**…Не помню ўжо, калі адчуў патрэбу**
**ў татуіроўцы думкі –**
**знакавай, глыбіннай –**
**каб на душы была, нібы на целе,**
**каб Бог убачыў,**
**кім быў я,**
**чаго хацеў я.**

# Татуіроўка думкі

Там, дзе стаіш – там пачатак неба.
У палыне – і ў неба пах палынны.
Не ўспомню ўжо, калі адчуў патрэбу
ў татуіроўцы думкі –
знакавай,
глыбіннай,
каб на душы была, нібы на целе,
каб Бог убачыў,
кім быў я,
чаго хацеў я.

Адважная паэзія мая,
ты добрая і ў благіх высновах,
як, зрэшты, крыўда беларуская.
Пачуць і ўбачыць думку можна ў словах.
Душа ж нязгодная,
бо жыве іначай:
татуіроўкай думку хочацца пазначыць.

Дзе рос палын, там цяпер прысады,
бо, колькі жыў, такой трымаўся мэты:
сікорскай яблыняю, слівай, вінаградам...--
як мог, заўжды ўпрыгожваў я планету.
Спачыць на лавачцы
пад грушаю прысяду –
ні то душа, ці думка пахне садам?

# Нататкі на ўзбочыне паэтычнага аркуша

***

Я шмат чаго на гэтым свеце бачыў.
З пагляду неба, мы такія:
ці цар, ці раб – жыццё одно сабачае,
пра што штодня зацята выем.

***

Аднойчы я, удзячны дню
за міг жыцця, прамёрзлы сеў  да печы
і ўпершыню адчуў душу агню –
яна цяплей ад чалавечай.

***

За  тое, што вясну  любіў,
што прысвячаў паэмы лету,
што з восенню ў стасунках быў –
зіма імкнецца  зжыць са свету.

***

Над Беларуссю неба казачнае ёсць:
тут дзве Мядзведзіцы ўжываюцца з Драконам,
 Пярсей Авену гладзіць з зорак поўсць –
жывецца небу па сваіх законах.

***

Я прымяшаў ў паэзію атруты,
шкадуючы ад слоў звычайных вушы.
Без цела – нета, разам з целам – брута –-
пазначаны для неба гэтак душы.

***

Аднойчы злюкаю ўбачыцца Айчына
і да яе не будзе больш вяртання.
Не першы ты ў яе, нібы ў жанчыны,
і гэты факт азмрочвае каханне.

***

Дзе цемра, там паэзіі не чутна.
Хаця… ўначы для бляску свеціць месяц.
Заўжды крытычны плюс на градусніку ртутным
і процьма на кладах свабодных месцаў.

***

Судзілі шчасце. Г ора-пракурор
патрабавала шчасцю гора-прыгавор.
Хто судзіць – хіба ж справядлівы?
Няма наогул суддзяў і шчаслівых.

***

Прышчэпваю я словы да зямлі,
каб расквітнець на ёй ліцвінскай мове,
бо вычварна чужызмы прараслі…
І гэты паэтычны метад – новы.

***

За паўстагоддзя што я зразумеў надоечы?
Маралі вучаць хціўцы ды забойцы…
На неба
на іспыт
перад святою Троіцай
з”яўлюся я адпетым двоечнікам.

***

Крывёй заклею я душу ў канверце
і хабарам пазначу сатане.
Згусцее цемра і затанчаць чэрці,
што праміргалі служкі Богавы мяне.

***

Мне сакавік падлянку падлажыў
у выглядзе абвостранай хваробы.
Паскудна, людцы, я скажу вам, жыць,
калі цябе жывым ядуць мікробы.
Каб яны падавіліся!..

***

Я па статыстыцы – мільённы,
такі малюсенькі – не ўгледзець,
па прынадлежнасці – казённы,
па вартасці – не варты медзі

***

Пра гарады, пакольки ў іх жыў,
апавядаю толькі метафарай:
гэта мапа маёй душы,
геаграфія біяграфіі.

Што тычыцца Мінска – тут я студэнт
з яго "кармакухняю" ў сэрцы:
локшынай – вуліцы,
а цэнтральны праспект –
сасіска ў талерцы.

## Пацалунак у сэрца

Як мяне жанчына
ў сэрца цалавала
і, нібыта сыну,
сумная казала:
“Сэрца ледзяное,
ды яно адтае.
З пані маладою
цуд радні спазнае.
І для той красуні
стане паднявольным.
Мой жа пацалунак
будзе яму болем.”

То мяне каханне
ў сэрца цалавала!

***

Без войнаў, мусіць, люду не пражыць,
нібыта гэта самае святое.
Веравызнанне хочацца змяніць,
бо адчуваю: важнае другое!

Я ў узросце тым, калі пара мудрэць
і ад жыцця – ні радасці, ні злосці.
Ідэалогію вясны стаў разумець –
вось гэта прапаганда прыгажосці!

Люблю вясну, калі сады цвітуць.
Жыць хораша і хочацца здароўя.
...Паўсюль па свеце людзі кроў ільюць –
і будуць ветэранаў ушаноўваць!

***

Эмігрырую ў Душу…
Цяпер святое мне ад веку
і што люблю, і што нашу –
ад настальгіі толькі лекі.

Чаму няўмольна час бяжыць,
яго галёкаюць ганебна,
а на радзіме страшна жыць,
і ўжо зусім не страшна неба?

Каб кветку вырасціць адну,
патрэбна розуму багата.
Нашто сабраў я на бяду
сабе трывог букет бухматы?

# Жаўруковае поле

1

Дзе Гарынь – радыяцыя ёсць.
Нарадзіўся я там, і там я не госць.
На  Дзвіне, дзе жыву, стан жыццёвы такі:
не спяваюць над полем тут жаўрукі.
Як падумаю я пра радзіму –
блага, быццам надыхаўся дыму.

2

Я газетчык, газеты амаль не чытаю,
бо найлепш ад другіх бруд гэты знаю,
і амаль не гляджу ТВ, але
не ўхіліцца ад бруду, які яно лье.
І мне хочацца чысціні.
І раздольнага поля. І жыць без маны.

3

Асаблівасць зімы: зачароўвацца нечым;
пад  зімовай апраткай стамляюцца плечы –
то ў чаканні вясны. А вясной, як ніколі,
мяне цягне пайсці па вораным полі
і павесці каня за сабой за вуздзечку –
па знаёмай зямлі з жаўруковым гняздзечкам.

4

“Гэй ты, косю дзяцінства! Палескі  мой косю!.. “
Ці  ты чуеш, Прыдзвінне, сум свайго госця?
Не палохае-пудзіць мой крок жаўрука,
і цячэ безуважна на захад рака.
Дый раздольнага поля ў Прыдзвінні няма,
бо лясы для прастору – турма!

5

Чутны крокі ў грудзях – то ходзіць сэрца:
непакоіцца, б”ецца, каб не памерці.
Потым боль разліваецца да галавы,
каб пакутаваў, знаў я, што шчэ жывы.
І штодня назіраю ў акно за Дзвіной –
там ёсць бераг, сходжаны мной.

6

Пахаджу па кватэры – і зноў да акна;
па-над полем прыдзвінскім нябёс глыбіня:
калі шэрая – мелкая, калі сіняя – вір…
Гэта ж колькі патрэбна, каб узляцець туды, крыл?
Праплываюць аблокі, быццам ільдзіны,
і напята душа прыцягненнем радзімы.

7

Я аднойчы ўзляцеў над Дзвіной у верталёце,
пачувалася мне жаўруком у палёце:
быццам я назаўсёды ў неба злятаю,
а душа, затрымцеўшы, зямельцы спявае:
“Ой, ты, поле маё, не прыдзвінскае…
Дзе ж ты, поле маё, прыгарынскае?”

8

Ёсць вышыні радзімы, ды ёсць і бяздонні;
ёй бракуе любові, ды не да гоней…
І як выйсце, я неба ўзяў для ўдачы;
во, узлятаю – мяне высока вы бачыце:
пад аблокамі я з жаўрукамі
вінтакрыла махаю рукамі.

9

Усявышні, я ўдзячны за ўсю тваю помач;
Ты ў жыццёвым палёце заўжды са мной побач.

Дзякуй, Божа, за слых і за зрок,
што яшчэ чую і бачу далёка,
што для ўзлёту да пэўнае волі
ёсць маё жаўруковае поле.

10

Паўтараецца ўсё. Лета зноў паўтараецца;
над туманнай Дзвіной зара разгараецца –
настае новы дзень. Тут над полем,
далібог, жаўрука я не бачыў ніколі,
бо далёка адсюль вёў каня за вуздзечку
па знаёмай зямлі з жаўруковым гняздзечкам.

# Дрымотны стан

Брынчыць ад Полацка вагон,
трасе людзей, бы ў сіце зерне.
І я лячу далёка ў сон
адтуль, дзе люд  па лаўках дрэмле.
Народ  мой родны, я з табой
такі  ж стамлёны, недаспаны,
з матляючаю галавой…
Праехаў станцыю Гараны.

Красы намерыў нам Гасподзь:
улетку – квет, узімку – бела…
І мы шчыруем круглы год ,
аднак жывём чамусьці шэра.
Народ мой любы, я з табой,
заўжды апрануты бы ў робу…
…Зарослы хмызняком, травой,
сустрэў цягнік цагельнік Обаль.

Найлепш ад лектараў цягнік
і забалбоча, й закалыша.
Й прасветліцца шчасліва лік –
нібы асаду пану ліжаш.
Народ мой горды, я з табой…
То ж кантралёршчыца ў пілотцы
навісла  грозна нада  мной…
Праехалі паўстанак Лётцы.

О не, не спіцца, пэўна, не,
мне, нашчадку Перамогі:
мурзаты  Віцебск у вакне
абапал рэйкавай дарогі.
Народ мой сціплы, я з табой…
Вось канчаткова я праснуся,
і выйдзем вольна ў свет гурбой
як грамадзяне Беларусі.

***

Ані ўладу, ні свабоду…
Выбіраць – дык лес з пралескамі,
Бо вясенняю заўсёды
Хоча быць душа палеская.

Непрыстойна йсці жабрачыць,
Ды што зробіш – есці ж хочацца.
Мокрым станеш – дождж убачыш,
Зразумееш – то Бог мочыцца.

Ад дзяржаўных
ад падручнікаў
Колькі крокаў да расстрэлу.
Ужо слову “беларускі”
Ёсць сінонім –
слова “смелы”.

Дык падайце словам добрым
Хрысціянскаму паэту!
Праклінаючы нядолю,
Ён шчэ любіць зямлю гэту.

***

То ў паэзіі эксперымент:
горад Полацк ахвярай агрэсіі
пакладу акуратна ў канверт
і лістом адашлю на Палессе.

Тут мяне і склянуць крывічы…
…Ля Дзвіны ў полі тахкае трактар,
ды ўжо ў гэтай зямлі
паржавелі мячы –
крывіцкі характар.

І Дзвіна… Адно назва: Дзвін-н-а-а…
Ні зачэрпнуць вады, ні напіцца.
Карабель, адно гербавы,
не кратае дна –
плыве, калі сніцца.

Я праклёны збяру як заслужаны дар
і пачну гандляваць на Палессі.
Мост Чырвоны (рачны) і Сафійку аддам
за тамтэйшыя вольныя песні.

***

Не ўсміхайцеся, Заходняя Дзвіна.
Я каюся: не стала лёгка жыць.
І нават больш гняце віна,
што ўшыркі  вас не здолеў пераплыць.

Я абдымаў сажэнкамі шматкроць
ваш  плыткі стан – і зведаў жах смяротны:
так пацалункамі не ўсмоктваецца плоць,
як засмактаў мяне ваш вір халодны.

Я, пэўна, звар"яцеў бы, каб не Бог…
О-хо-хо-хо!.. Даваў  нырца  я ў рэкі,
каб  зразумець, што  ўсё-ткі  ж  ёсць любоў.
Прыдзвінцам стаў, бы прымаком на здзекі…

…Не ўсміхайцеся, Заходняя Дзвіна:
ад вашых сенцаў Піна мне відна.

***

*“Над зямлёй такое неба –*
*толькі верыць, толькі жыць.”*
І. Дарафейчук

Сёння сонечна і ціха –
свята Полацкай зямлі.
Перажыў я ўсё-ткі ліха:
дні дажджлівыя прайшлі.
Быццам шчасця хтось адмерыў
ці задобрана душа…
Толькі мучыць апахмелак,
а ў кішэні – ні шыша.

Сёння вельмі урачыста –
па-над Полацкам крыжы.
От бы шчэ сумлення чыстага!
З тым, што ёсць, пагана жыць.
Я купіў бы ў храме свечку,
ды прабачце: а нашто?
Што там ёсць, у небе вечным,
ці смяецца Ісус Хрыстос?

Бацька Божа, брат Ісусе,
жыццедайны Дух Святы,
Не сярдуйце з беларуса,
ён жа Вамі кінуты.
Я на слова шчэ ўсім веру,
ад таго, што добры я,
Хоць і мучыць апахмелак
шчэ пасля Чарнобыля.

***

Сакавіцкае сонца скупое,
і таму мы стаім на марозе.
Дзе шукаць нам цяпло радавое –
у касцёле, царкве, сінагозе?..

На Цэнтральнае плошчы палаткі!
У  час роспачны смелы учынак
па сугрэву знямоглай салдаткі
з файным прозвішчам Маці-Айчына.

Можа, так можна й шчэ абагрэцца –
у святле ліхтара або свечкі.
Шчэ мы маем гарачае сэрца,
нат пасля валідолу з аптэчкі.

А навокал сняжок віхурыцца,
а паблізу ў Палацы панове –
нам туды не дапрасіцца
на сваёй беларускае мове.

Беларусь!Ты наша мроя!..
Беларусь, з  тваім імем выбітным
на Цэнтральнае плошчы героі
з неўміручай душой дынамітнай.

***

Захварэла смерць,
занядужала
І памёрла,
белы свет перарушыўшы:
Сталі вечныя нават хілыя;
Блазны спрэс са скіпетрам
ды з кадзіламі;
Жыта ў полі ў рост –
не сажнеш яго;
Рэкі, рыбай поўныя,
выйшлі з берагоў…
Смажу рыбу я,
ды не смажыцца:
Па патэльні б”ецца,
бы курожыцца.
Голад мучыць…
Цяжка ўсё-ткі вечна жыць.
На смяротным ложку
толькі смерць ляжыць
Без пашаны неба ёй за подзвігі.
Адно смутак мой – смерці помнікам!
Я хаджу па вечнасці бы аглушаны:
Белы свет жыццём перагружаны,
Вось-вось ляснецца ў нікуды –
І не будзе больш вечнае бяды.

***

Увогуле я не выбаршчык зла:
шкада нават зрэзаных кветак…
А думка мая касманаўтам была,
калі запусціў  над  планетай.

Адсюль добра бачны жыццёвы прастор,
каб вызначыць вечнасці
тэзы.
Рукой памахаю я млява з-пад зор
экстазным прыхільнікам
фэнтазі.

Зямля рыхтавала пакутную смерць:
у браню закавала. З гарматай…
А выпадзе мне ўсё-ткі ў танку згарэць,
дык лепш за – што ў клетцы – прымата.

Цяпер я сусвету ўсяму патрыёт!
А ўспомню зямное шчэ ў скрусе –
па-роднаму з ЗША адгукнецца каёт
і воўча з былой Беларусі.

І гэту душэўнасць ужо не спыніць
нат арміі  з  тайнай праслушкай…
Як позна я ўцяў : дзе з жанчынаю спіш,
каханнем там пахне й падушка.

***

На Полаччыне любяць грошы і уладу,
з чаго ў мяне няма нічога.
Аднак пішу я вершы складна,
і гэта, ведаю, -- ад Бога.
Шчэ сэрца грэе ген праз успамін,
што ўсё-ткі я Палесся сын.

Я зведаў: больш за гора, смутак або сум –
як маці моліць уваскрэснуць сына.
І пухне галава мая ад дум:
што сталася з тае краінай,
якою ганарыўся я, якую я любіў,
якую ўжо ў душы згубіў?

У дзве тышчы сёмае ад дзён Хрыстовых лета
на Полаччыну дзьмухнула спякота.
Як прымушалі вольнага паэта
рэгістраваць Паэзію работай –
асобны сказ. Не ведаюць, што хочуць.
А на Палессі шчэ па-роднаму лапочуць.

Жывецца ціха, быццам у музеі,
дзе косці мамантa прыцягваюць пагляд.
На Полаччыне правяць “чарадзеі”,
яны па-ваўкалацку “говорят”.
Ды хочацца душы тутэйшых слоў.
Калі ж яны, калі ўваскрэснуць зноў?

## Верабей

Вельмі хочацца мне
пахваліць вераб”я:
колькі помню,
ля нас прабывае.
Доля ягоная рыхтык мая:
холадна, голадна – не адлятае.

Дый куды адлятаць? Нідзе волі няма.
Гэту праўду ніхто не аспрэчыць:
па планеце – граніцы,
краіны – турма,
толькі ў неба праз смерць можна збегчы.

І зямлю, і людзей так зіма дапякла,
што свет стаў з вераб”інае вока.
Вельмі хочацца шчэ,
каб Радзіма жыла,
і каб лётаць над ёю высока.

Пераможныя спевы чырыкуна
салаўя прысаромяць любога.
Нам вясеннія дні – нібы кубкі віна.
… Адчуванне прысутнасці Бога.

***

Нашчадку грому па душы майно.
Шкада, канешне, што згубіў я сорам,
Хоць то адразу й не відно,
Бы неба уначы без зорак.

Нашчадку грому навязалі храм:
Змірыць гардыню, не грымець, маліцца!
Будызм, іудаізм, іслам
І хрысціянства…
Можа, расчляніцца?

Вось так, без грому, і спрабую жыць.
Акустыка -- да глыбінь Сусвету:
Такім паскудствам кожны раз звініць,
Калі кідаеш жабраку манету!

Такі вось храм для размовы з Богам…

***

На Полаччыну неба ўпала –
мароз трашчыць
і снег, як пыл, клубіцца.
Падвесіў на шнуры я скрылік сала,
каб ратаваць ад голаду сінічак.

Я здольны і не на такое
на гэтым свеце,
жорсткім і паскудным.
А тут – драбнота;
бы мярзотнік стоены,
адчуў сябе над птушкамі магутным.

Вось гэтак хтосьці
й нада мной уладарыць
за грашовы скрылік дабрабыту…
… Хай здзейсняцца
маіх сінічак мары,
і будзе ім ад Бога лета сытнае!

***

Пахне лаўрам. Жонка  ля пліты.
Радыё балбоча на паўсілы:
…астравы Курыльскае грады…
Сварацца Японія й Расія.

Жонка варыць макаронны суп –
мужна ў безграшоўі   мы трываем.
Нам па бубне востраў Утуруп,
Шыкатан, Уруп і Хабамаі.

З”езджу я на нашы астравы,
што сярод Асвеі  быццам глыбы,
і да вострых пахаў супавых
дамяшаю пах азёрнай рыбы.

***

*Г. Паўлаву*

На возеры Званае шэра.
P.S. Палачан краявіды
абагульніць можна смела
у вобраз адвечнае крыўды.

Зямля, што заўжды пад дажджамі,
лясістая, з мноствам азёраў…
Я тут усяго прыхаджанін –
Паэзіі валанцёр я.

Вось зноў Гена Паўлаў заводзіць
пра стрэльбу сваю і пра птушкі:
“Стаішся ў прыбрэжным чароце –
і качкі садзяцца на “мушку”.

А я даскажу, як пазычу:
“Як жахнеш па кракве дуплетам!..”
На Полаччыне быць паляўнічым,
дальбог, весялей, чым паэтам.

На шрот смертаносны і порах
найлепшыя грошы – з заначкі.
Для Паўлава Г. на азёрах
тлусцеюць нахабныя качкі –

ад іх там, бы ў непагадзь, шэра…
…Дарэчы, толькі на Званым
верш льецца класічным памерам
пра паляванне.

# Я

Паслязім"ем будзе вясна.
Пазяхнулася: гэтак звыкла!
Майго чэрава глыбіня
мае іклы.

Пасміхаюцца з дзівака:
за парканам зубоў іклыстых
форма "русского языка"
чыстая!

Калі ж надта загледзяць рот –
абарвецца трыванне словам,
і па вуху як секанёць…
палешуцкая мова.

***

Калі я крышачку хмяльны –
і не цвярозы, і не п”яны, --
бяру я ў рукі шар зямны –
і звіняць мерыдыяны.

Пра што я йграю, што пяю?..
Жывецца весела і слаўна,
нат спаць кладуся і ўстаю
не абы-як – пад гімн дзяржаўны!

Нізіны, выганы, палі,
лясы, лугі, балацявіны…
На беларускай на зямлі
нясу  дзяржаўную павіннасць.

# Двор

Двор дарослых. Моладзь. Дзеці. Смех –
ля пясочніцы малы малога б”е.
Пацешна…
Уладарыць – то зусім не грэх;
непакорлівымі быць – даводзяць, грэшна!

Тут і я – сярод народа ўжо дзядок –
і парадкі смела крыю словам сочным:
не вязуць у двор дарослыя пясок,
не хапае для малой дзятвы пясочніц!

***

Над Дзвіною, над ракой
Вецер гушкаў аблачыну.
Мне красы зямлі чужой
Дасталося не па чыне.
Мне яна згінае плечы
На апошнім раздарожжы,
Дзе лёс выбярэ мне вечнасць,
І пакіну я свет Божы.

Ды як скончу свае дні,
Пахавайце на Палессі,
Бо ў Полацкай зямлі
Будзе мулка мне і цесна.
А душы зачараванай
Над Дзвіною лётаць птушкай,
Дзе, у неба закаханы,
Аблачыну вецер гушкаў.

**Пераклады**

Иосиф Бродский




**…Ад усяго чалавека вам застаецца часціна мовы. Часціна мовы наогул. Часціна мовы.**

## ЛІСТЫ РЫМСКАМУ СЯБРУ

***З Марцыяла***

---

Сёння ветрана і хвалі з пераплюхам.
Хутка восень, спрэс адбудуцца абноўкі.
Змена фарбаў гэтых, Постум, болей люба,
чым убрання перамена у сяброўкі.

Дзева цешыць нам вядома дакуль можна –
ўверх ад локця не пайсці, калену рады.
Па-за целам колькі ж радасна прыгожае:
ні абдымак немагчымы, ані здрада.

---

Пасылаю табе, Постум, тыя кнігі.
Што ў сталіцы? Мякка сцелюць?Спаць не
проста?
Як там Цэзар? Чым заняты? Ўсё інтрыгі?
Ўсё інтрыгі, верагодна, ды абжорства.

Я сяджу ў сваім садку, гарыць свяцільнік.
Ні сяброўкі, ні служанкі, ні знаёмых.
За уладных свету гэтага й бяссільных –
толькі згоднае гудзенне насякомых.

---

Тут ляжыць купчына з Азіі. Талковым
быў купцом ён – дзелавіты, непрыкметны.

Згаснуў хутка: ліхаманка. Па гандлёвых
справах ён сюды прыплыў, а не за гэтым.

Побач з ім – легіянер, пад грубым кварцам.
Ён у сечах злых Імперыю праславіў.
Шмат разоў маглі забіць! ды згаснуў старцам.
Нават тутка не знаходзіш, Постум, правіл.

---

Хай напраўду, Постум, курыца не птушка,
ды з курынымі мазгамі хопіш гора.
А раз выраслі ў Імперыі з пялюшак --
лепш жыць у глухой правінцыі ля мора.

І ад Цэзара далёка, й ад завеі.
Выдыгаць не трэба, трусіць, мітусіцца.
Кажаш, што паўсюль намеснікі – зладзеі?
Ды мне злодзей любы больш ад крывапіўцы.

---

Гэты лівень перабыць з табой, гетэра,
згодзен я, аднак давай не будзь гандляркай:
браць сестэрый з пакрываючага цела
усё роўна, што спагнаць у даха дранку.

Працякаю, наракаеш? Ды дзе ж лужа?
Каб калюгу пакідаў я, не бывала.

Вось займей сабе якога-небудзь мужа,
ён і будзе працякаць на пакрывала.

---

Вось і мы пражылі больш ад палавіны.
Як сказаў мне раб стары перад тавернай:
“Азіраючыся, бачым мы руіны”.
Погляд, праўда, вельмі варварскі, ды верны.

У гарах быў. Тлум цяпер з буйным букетам.
Адшукаю ёмкі збан, вады налью ім.
Як у Лівіі, мой Постум, або дзе там?
І няўжо ажно дагэтуль шчэ ваюем?

---

Помніш, Постум, у намесніка сястрыца?
Хударлявая, ды з поўнымі нагамі.
Ты з ёй спаў яшчэ… Нядаўна стала жрыца.
Жрыца, Постум, мае зносіны з багамі.

Прыязджай, пап”ём віна, закусім хлебам.
Мо і слівамі. Мне весцяў нагаворыш.
Пасцялю табе ў садку пад чыстым небам
і скажу, як называюцца сузор”і.

---

Хутка, Постум, друг твой, любячы складанне,
доўг свой даўні адніманню ўрэшце збудзе.

Забяры і з-пад падушкі захаванні,
там няшмат, аднак на пахаванне будзе.

І паедзь на вараной сваёй кабыле
ў дом гетэр пад гарадской сцяной раскошны.
Дай цану ім, за каторую любілі,
каб аплаквалі б яны за тыя ж грошы.

---

Зелень лаўра, аж да дрыжыкаў па целе.
Дзверы насцеж, вельмі пыльнае акенца.
Стул пакінуты ля гэтакай пасцелі.
І тканіна, як сцякло ў палудзень сонца.

Понт шуміць за чорнай агароджай піній.
З ветрам чыйсьці барк змагаецца ля мыса.
На рассохлай лавачцы – Старэйшы Пліній.
Дрозд шчабеча ў шавялюры кіпарыса.

Сакавік 1972

# ПЕСНЯ НЯВІННАСЦІ, ЯНА Ж -- ВОПЫТУ

On a cloud I saw a child,
and he laughing said to me…
*William Blake**

1

Хочам мы гуляць на лужку ў плямулі,
ў паліто не хадзіць, але ў кашулі.
А калі на двары будзе дождж і хляга,
мы, рыхтуючы урок, хочам не плакаць.

Мы падручнік чытаем, насупор назве.
Тое, што нам сніцца, і стане явай.
Мы палюбім усіх, і ў адказ – яны нас.
Гэта самае лепшае: плюс на мінус.

Возьмем жонкамі сабе мы дзеў з вачамі
дзікай лані; а калі мы дзевы самі,
то мы возьмем у мужы юнакоў стройных,
і не будзем чуць душы ўжо ў нас роўных.

І таму што у лялькі тварык з ухмылкай,
смяючыся, і мы зробім памылкі.
І тады жывучыя на спакоі
мудрацы нам скажуць, што жыць такое.

_______________

*Дзіцё на аблачынцы ўбачыў я,
яно мне мовіла, смяючыся…
*Вільям Блэйк (англ.)*

2

Нашы думкі даўжэць будуць з кожным годам.
Мы любую немач пераможам ёдам.
Нашы вокны завешаны будуць цюлем,
а не забраны чорна кратамі турмаў.

Мы з прыемнай работы вернемся рана.
Мы вачэй не спусцім у кіно з экрана.
Мы цяжкія брошкі прыколем да плаццяў.
А калі хто без грошай, то мы заплацім.

Мы збудуем судна з вінтом і парам,
цалкам металічнае і з поўным барам.
Мы ўзыйдзем на борт, атрымаем візу,
і убачым Акропаль і Мону Лізу.

І таму што колькасць кантынентаў годна
з колькасцю чатыры порамі года,
перамножыўшы й палівам бак заліўшы,
дваццаць месцаў займеем ехаць кудысьці.

3

Салавей спяе нам у гаі зялёным.
Мы не будзем думаць пра смерць больш плённа,
чым варона ў вачох агародных пудзіл.
    Саграшыўшы, мы самі і ў кутку будзем.

Нашу старасць мы сустрэнем у фатэлі
ў атачэнні ўнукаў і ўнучак. А калі
іх не будзе, дадуць паглядзець суседзі
    ў тэлевізары гібель шпіёнскай сеці.

Як нас вучаць кнігі, сябры, эпоха:
заўтра не можа быць так жа дохлым,
як учора, й слова гэта пісаці
    ў tempi належыць нам passati.

І таму што душа знаходзіцца ў целе,
жыць будзе лепей, чым мы хацелі.
Мы пірог свой засмажым на чыстым сале,
    бо так больш смачна; нам так сказалі.

--------------

Hear the voice of the Bard!

*William Blake**

1

Мы не п"ём віна на ўскрайку вёскі.
Ў жаніхі царэўны мы сябе не ўносім.
Мы ў бацвінне не мачаем лапаць.
    Нам смяяцца горка і сумна плакаць.

Мы дугу не гнём напалам з мядзведзем.
Мы на шэрым воўчы ўперад не едзем,
і яму не ўстаць, уколатым шпрыцам
альбо долу ляснутым, стройным прынцам.

Знаем медныя трубы, ды ў іх не трубім.
Мы не любім падобных ад нас, не любім
тых, хто зроблены быў з другога цеста.
Нам не да спадобы час, а часцей – месца.

І таму што поўнач воддаль ад поўдня,
нашы думкі чапляюць кожную штодня,
як гасне сонца, мы святло ўключаем,
скончваючы вечар грузінскім чаем.

__________________

*Пачуйце голас Песняра! Вільям Блэйк(англ.)

2

Мы не бачым усходаў з раллі нашай.
Нам суддзя брыдкі, абаронца страшны.
Даражэй нам свайка, чым матч на свеце.
Дайце нам абед і кампот на трэцяе.

Нам зара ўвачччу, што сляза ў падушцы.
Мы баімся кароны ў ілбе лягушкі,
бародавак на пальцах і іншай дрэні.
Падарыце нам цюбік мазі для лячэння.

Нам прыемна глупства, чым хітрасць ліскі.
Мы не ведаем, нашто на дрэвах лісце.

І, калі іх зрывае Барэй да часу,
нішто не выяўляем, апроч грымасы.

Таму што цяпло пераходзіць у холад,
наш пінжак зашыты, кажух з праколам.
Не розум наш, а вочы паачахлі,
каб шукаць адрозненне арла ад цаплі.

3

Мы баімся смерці, пасмяротнай плахі.
Пры жыцці знаёмы нам прадмет жаху:
пустата больш пэўна і горш ад неба.
Мы не знаем, каму нам сказаць "не трэба".

Нашы жыцці, як радкі, дайшлі да кропкі.
У галавах дачкі ў начной сарочцы
або сына ў майцы не стаць нам снамі.
Наш цень даўжэйшы, чым ноч перад намі.

То не звон гудзе над панурым вечам!
Мы уходзім у цемру, дзе сваціць нам нечым.
Мы паперы палім і спускаем флагі.
Дайце нам прыпасці шчэ раз да біклагі.

Чаму ўсё так выйшла? І будзе нягожа
на характар узваліць або волю Божую.
Ці павінна было быць так? Зрэшты,
мы плацілі за ўсіх, і не трэба рэшты.
1972

***

*Л.Лосеву*

Я заўжды сцвярджаў, што лёс ёсць ігра.
Што нашто нам рыба, раз ёсць ікра.
Што гатычны стыль пераможа, як школа,
і як здольнасць тырчэць, пазбегнуўшы ўкола.
Я сяджу ля акна. За акном асіна.
Я кахаў нямногіх. Аднак штосілы.

Я лічыў, што лес – частка ад палена.
Што нашто ўся дзева, раз ёсць калена.
Што, стамлёнае ўзнятым векам пылам,
вока рускае спачне на эстонскім шпілі.
Я сяджу ля акна. Я намыў посуду.
Я шчаслівы быў тут, і ўжо не буду.

Я пісаў, што ў лямпачцы – жудас полу.
Што любоў, як акт, без дзеяслова болей.
Што не знаў Эўклід, што, ідучы на конус,
рэч прымае не нуль, толькі Хронас.
Я сяджу ля акна. Помню, як быў юны.
Усміхнуся парой, парой адплюну.

Я сказаў, што ліст разбурае почку.
Што насенне,упаўшы ў глебу псотую,
не дае парастка: што луг з палянай
ёсць узор ананізму, у Прыродзе яўны.
Я сяджу ля акна, абхапіў калені
ў коле уласнага грузнага ценю.

Мая песня была збаўлена матыву,
ды аднак яе хорам не спець. Не дзіва,
што ў падзяку за яе мне, дарэчы,
сваіх ног ніхто не кладзе на плечы.
Я сяджу ля акна ў цемнаце; як скоры,
мора грыміць за бурлівай шторай.

Грамадзянін другаснай эпохі, горда
прызнаю я таварам другога сорту
свае лепшыя думкі, і дням ідучым
іх дару як вопыт барацьбы з удушшам.
Я сяджу ў цемнаце. І яна пастольку
у пакоі, бо цемната знадворку.

## На смерць Жукава

Бачу калоны сціхлых унукаў,
дом на лафеце, коніка рух.
Вецер сюды не даносіць мне гукаў
рускіх ваенных жаласных труб.
Бачу убраны ў рэгаліі труп:
едзе у смерць полымны Жукаў.

Воін, прад кім шматлікія палі
сцены, хоць меч у сечах ступеў,
у волжскіх стэпах пра Ганібала
ўзгадваў яго́ны бліскучы манеўр.
Дні свае скончыў глуха, ў апале,
як Велізарый або Пампей.

Колькі праліў салдацкай крыві ён
на чужыне! Няўжо, гараваў?
Ці пра іх думаў у сконе ў цівільнай
белай пасцелі? Поўны правал.
Што ён адкажа, стрэўшыся ў дымнай
вобласці з імі? "Я ваяваў".

Да справядлівай справы ўжо рукі
больш не прыложыць Жукаў у баі.
Спі! А старонкі гісторыі рускай
хопіць для тых, хто ў пяхотным страі
смела ў сталіцы чужынскія рухаў,
потым вяртаўся ў страху ў сваю.

Маршал! Глыне пачварная Лета
гэтыя словы й твае прахары.
Ды ўсё ж , прымі іх – дробная лепта
род свой ратуючым, што гаварыць.
Бі, барабан, і, ваенная флейта,
гучна свісці, як свісцяць снегіры.

# ЧАСЦІНА МОВЫ

1975 – 1976

***

Ніадкуль з любоўю, наццатага сакавікасня,
дарагі паважаны мілая, хоць не важна як
завуць, бо рыс твару, па прызнанні
шчырым, не ўспомніць ужо, не ваш, аднак
і нічый верны друг вас вітае з аднаго
з пяці кантынентаў, які трымаецца на каўбоях;
я любіў цябе болей, чым анёлаў і самога,
і таму далей цяпер ад цябе, чым ад іх абодвух
позна ўначы, у заснулай даліне, на самым дне,
у гарадку, занесеным снегам па ручкі дзвярэй,
выгінаючыся ўначы на прасціне –
як прынамсі не сказана ніжэй –
я ўзбіваю падушку мычачай "ты" пысай
за морамі, канца і краю не маючых,
у цемнаце ўсім целам твае рысы,
як шалёнае люстэрка паўтараючы.

***

Поўнач трушчыць метал, ды шкадуе шкло.
Вучыць гартань вымавіць “упусці”.
Выхаваў холад мяне і паклаў пяро
ў пальцы, каб іх сагрэць у жменьцы.

Замярзаю і бачу: за далягляд
сонца садзіцца, а я сам насам.
Ці то па лёдзе слізгоча абцас, ці то сама зямля
закругляецца пад абцасам.

І ў гартані маёй, дзе павінен быць смех
ці мова, ці гарачы чай,
усё выразней раздаецца снег
і чарнее, бы твой Сядоў, “бывай”.

***

Пазнаю гэты вецер, налятае які на траву,
пад яго якая кладзецца, быццам пад татарву.
Пазнаю гэты ліст, у прыдарожную гразь
які падае, як скрываўлены князь.
Расцякаючыся шырокай стралой па касяку
драўлянага дома ў чужым баку,
бы гуся па палёту, восень у шкле знізу
пазнае па твары слязу.
І, закатваючы вочы пад страху,
я не слова аб нумар забыў кажу палку,
ды кайсацкае імя ў роце язык
катае ўначы, бы ў Арду ярлык.

***

Гэта – рад назіранняў. У кутку – цяпло.
Позірк пакіне на рэчы след.
Вада ўяўляе сабою шкло.
Чалавек страшнейшы за свой шкілет.

Зімні вечар з вінoм у нідзе.
Веранда, сціснутая вербняком.
Цела на локці і не ўпадзе,
як марэна па-за ледніком.

Праз тышчу гадоў з-за штор малюск
выцягнуць з праступіўшым праз бахтарму
адбіткам “добрай ночы” вуснаў,
не меўшых сказаць каму.

***

Таму што абцас пакідае сляды – зіма.
У драўляных рэчах замярзаючы ў полі,
па прахожых сябе пазнаюць дамы.
Што сказаць увечары пра наступнае, калі
успаміны ў начной цішы
пра цяпло тваіх – пропуск – калі заснула,
цела адкідвае ад душы
на сцяну, рыхтык цень ад стула
на сцяну ўвечары свечачка,
пад абрусам сцягнутым к лесу небам
над сіласнай вежай нацёртае крылом грака
не адбеліш паветра калючым снегам.

***

Драўляны лаакаон, скінуўшы на час гару з
плеч, падстаўляе іх пад вялізную хмару. З мыса
налятаюць парывы рэзкага ветру. Голас
намагаецца ўтрымаць слова, віскнуўшы ў межах
мыслі.
Абрушваецца дождж; перакручаныя канаты
сцябаюць спіны узгоркаў, рыхтык у лазні лапаткі.
Міжземнае мора шавеліцца за агрызкамі
каланады,
як салёны язык за разбітай сапаткай.
Здзічэлае сэрца ўсё яшчэ б"ецца за два.
Кожны са стрэльбай знае, дзе сядзяць фазаны,--
ў лужыне
пад лежнікам.
За сягодняшнім днём стаіць нерухома заўтра,
як выказнік за дзейнікам.

***

Я нарадзіўся і вырас на балтыйскіх балотах, зблізку
дзе
шэрань цынкавых хваль, заўжды ў набяганні па
дзве,
і адсюль – усе рыфмы, адсюль той бляклы голас,
што ўецца між імі, як мокры волас;
калі ўецца наогул. Абапіраючыся на локаць,
ракавіна вушная ў іх распачуе не рокат,
аднак воплескі палатна, складзень, далоней,
чайнік, які кіпіць на газоўцы,
максімум – крыкі чаек.
У гэтых плоскіх краёх тое й беражэ ад фальшы
сэрца, што схавацца няма дзе і далей бачыш.
Гэта толькі для гуку прастора заўжды недарэка:
вока не паскардзіцца на недахоп рэха.

***

Што тычыцца зор, дык яны заўжды.
Гэта значыць, калі адна, то і другая ўначы.
Толькі  так адтуль і можна глядзець сюды;
ўвечары, пасля васьмі, міргаючы.
Неба глядзіцца лепш без іх. Прычым
асваенне космасу лепей, калі
з імі. Аднак менавіта не сходзячы
з месца, на голай верандзе, у фатэлі.
Як сказаў, палову твару ў цяні
хаваючы, пілот аднаго снарада,
пэўна, жыцця няма нідзе, і ні
на адной з іх не затрымаеш пагляда.

***

У гарадку, з каторага смерць распаўзлася па
школьнай мапе,
маставая блішчыць, як луска на карпе,
аплываюць тугія свечкі на каштане стогадовым
і чыгунны леў сумуе па палкай прамове.
Скрозь ваконную марлю, злінялую да дзіркі,
праступае абрыс гваздзіка і стрэлкі кірхі;
ўдалечыні бразгоча трамвай, як заўжды ў час
ягоны,
ды ніхто не сыходзіць больш ля стадыёна.
Сапраўдны канец вайны – гэта на тонкай спінцы
венскага стула плацце адной бландзінкі
ды крылаты палёт серабрыстай гудзячай кулі,
чым на Поўдзень жыцці ў ліпені здзьмула.

***

Ля акіяна, у святле свечкі; як круг
поле, парослае канюшынай, шчаўём і люцэрнай.
Увечары ля цела, рыхтык ля Шывы, рук,
дацягнуцца жадаючых да бясцэннай.
Падаючы ў траву, сава наганяе мыш,
без прычыны парыпваюць кроквы.
У драўляным горадзе мацней спіш,
таму што сніцца ўжо толькі тое, што змог бы.
Пахне свежаю рыбай, да сцяны прыліп
профіль стула, тонкая марля не бодра
шавеліцца ў акне; і поўня папраўляе промнем
прыліў,
як спаўзаючую коўдру.

***

М. Б.

Ты забыла вёску, згубленую ў балотах
залесенай губерніі, дзе пудзіл на гародах
адвеку не трэба – не тыя там травы
і дарогай таксама ўсё гаці ды канавы.
Баба Насця, мусіць, памерла, і Песцяраў жывы не
лепей,
а калі жывы, дык п”яны сядзіць у склепе
або ладзіць са спінкі нашага ложка штосьці,
кажуць, брамку ці то вароты госцю.
А ўзімку там колюць дровы і сядзяць на рэпе,
і зара міргае ад дыму ў марозным небе.
І не ў перкалю ў акне нявеста, а свята пылу
ды пустое месца, дзе мы любілі.

***

Ціхатварэнне маё, маё нямое,
аднак, цяглавое – на страх лейцам,
куды паскардзімся на ярмо і
каму раскажам, як жывецца?
Як позна запаўнач шукаць яечню
поўні за шторамі запальнічкаю,
ўручную стрэпваеш пыл шаленства
з аскепкаў выскалу жоўтага ў пісчую.
Як гэты борздапіс, што гусцей патакі,
там ні размазвай, ды з кім у калене і
ў локці хоць бы праламіць, зноў-такі,
кусман адрэзаны, ціхатварэнне?

***

Цёмна-сіняя раніца ў зашэранай раме
нагадвае вуліцу з запаленымі  ліхтарамі,
ледзяную дарожку, скрыжаванні, сумёты,
таўкатню ў раздзявальні ў усходнім канцы Еўропы.
Там гучыць  "ганібал" з худога мяшка на стуле,
моцна пахне падпахамі на фізкультуры;
што да чорнае дошкі, ад каторай па скуры мароз,
так і засталася чорнаю. І ззаду такая ж ёсць.
Брынклівы званок сярэбраны іней
ператварыў у крышталь. Наконт паралельных ліній
усё аказалася праўдай і ў косць адзелася;
неахвота ўставаць. Ніколі не хацелася.

***

З пункту гледжання паветры, край зямлі
ўсюды. Што, скідаючы аблокаў масу,
супадае – чым бы ні замялі
сляды – з адчуваннем абцаса.
Дый вока, якое наўкол аглядае,
скошвае, што твой серп, палі;
пры перамене месцаў сума дробных складаемых
не больш пазнаецца, чым нулі.
І ўсмешка слізне, рыхтык цень грака
па агароджы шчарбатай, куст душны
шыпшыны стрымліваючы, аднак крыкам
бружмелю, не растульваючы вуснаў.

***

Замаразкі на глебе і аблысенне лесу,
неба шэрага колеру дахавага жалеза.
Выходзячы на двор кастрычніка няцотнага дня,
пацэпваючыся, чысло акругляеш  да  “ох ты бля!”
Ты не птушка, каб паляцець адсюль;
таму што ў пошуках мілай паўсюль
ты праехаў сусвет, далей годзе
без старонкі падацца ў жывой прыродзе.
Зазімуем жа тут, побач з чорнай асадай,
пранікальнае сцюжай звонку, адсюль – паглядам,
на штабель слоў за грудком у чыстым полі
пяром кірыліцы наколем.

***

Заўжды застаецца магчымасць выйсці з дому на
вуліцу, чыя карычневая даўжыня
супакоіць твой позірк пад”ездамі, худобаю
голых дрэў, водблікамі луж, хадзьбою.
На пустой галаве брыз шавеліць націну,
і вуліца ўдалечыні звужваецца ў літару  “у”,
як твар к падбародку, і сабака, брэшучы без меры,
вылятае з-пад варотаў, як скамячаная папера.
Вуліца. Некаторыя дамы
лепшыя ад  другіх: больш рэчаў вітрынных;
і хоць бы ўжо тым, што калі няма галавы,
дык, ва ўсялякім разе, не ўнутры іх.

***

Дык вось, прыгравае. У памяці, як на мяжы,
наперадзе злака пустога маячыць поўны.
Можна сказаць, што на Поўдні на палёх ужо
высяваюць сарго – калі б знаць, дзе Поўнач.
Зямля пад лапкай грака сапраўды бы жароўня;
пахне дошкай, свежай смалой. І бы ў люстэрку,
замружыўшыся ад асляпляльнага сонечнага
промня,
бачыш раптоўна мучністую шчаку клерка,
бегатню ў калідоры, эмаліраваны таз,
чалавека ў капялюшы, які вочы мружыць,
і другога, са ўспышкай, каб асвяціць не вас,
аднак абмяклае цела і крыві лужу.

***

Калі  нешта спяваць, дык перамену ветру,
заходняга на ўсходні, калі замёрзлае вецце
перамяшчаецца  ўлева, парыпваючы ад неахвоты,
і твой кашаль ляціць над раўнінай к лясам Дакоты.
Упоўдзень можна ўскінуць ружжо і стрэліць у тое,
                                                                    што ў  полі
кажацца зайцам, прадастаўляючы кулі
павялічыць разрыў між збітым зусім з тэмпу
пішучым гэтыя радкі пяром і тым, што
пакідае сляды. Іншы раз галава з рукою
зліваюцца, і не становіцца радком  тое,
аднак пад уласны ґолас, які перакотваецца
                                                                    картава,
падстаўляючы вуха, як частку кентаўра.

***

…і пры слове “будучыня” з мовы рускай
выбягаюць мышы і ўсёй напасцю
адгрызаюць ад прынаднага куса
памяці, што твой сыр дзірчасты.
Пасля столькіх зім ужо безуважна, што
або хто стаіць у кутку ля вакна за шторай,
і ў мазгох раздаецца не незямное “до”,
аднак яе шамаценне. Жыццё, катораму,
як даронай рэчы, не глядзяць у раціну,
агаляе зубы пры кожнай размове.
Ад усяго чалавека вам застаецца часціна
мовы. Часціна мовы наогул. Часціна мовы.

***

Я не то што трачу розум, аднак знямог за лета.
Па кашулю ў куфар палезеш, і згублены дзень.
Хутчэй бы, хіба што, прыйшла зіма і занесла ўсё
гэта–
гарады, чалавекаў, а для пачатку зелень.
Стану спаць не распранены ці чытаць з любога
месца чужую кнігу, пакуль што астаткі года,
як сабака, збеглы няўчас ад сляпога,
пераходзяць у прызначаным месцы асфальт.
Свабода –
гэта калі забываеш імя па бацьку ў тырана,
а сліна ў роце саладзей халвы Шыраза,
і хаця твае мазгі скручаны, як рог барана,
з блакітнага вока не капне ні разу.

***<u>Пераклаў з рускай мовы Лявон Неўдах</u>***

# Змест

## Раздзел першы

## Раздзел другі

## Пераклады
**(Восіп Бродскі)**

Неўдах Лявон(Лявонцій) Пятровіч

---

# Каханак восені

**(Кніга пачуццяў)**



Лявон Неўдах
(Лявонцій Пятровіч Неўдах)
Нарадзіўся ў 1947 годзе
ў в. Радчыцк Столінскага раёна.
Скончыў факультэт журналістыкі
Белдзяржуніверсітэта.
Працаваў галоўным рэдактарам
навапалацкай гарадской газеты
"Хімік". Друкаваўся ў часопісах
"Полымя", "Маладосць", альманахах
"Дзвіна", "Край", газеце "ЛіМ", шэрагу
калектыўных зборнікаў. Аўтар кніг
прозы "Формула дабрыні"(1989г.),
"Бумеранг"(2003г.), паэзіі "Чорнае
святло"(1998г.). Член Саюза
беларускіх пісьменнікаў.
Перакладаўся на славацкую мову.